# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 28 (2274)

9 ліпеня 1992г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 50 кап. (па падпісцы — 8 кап.)






# КУПАЛАВЫ ЖАЛЬБІНЫ

Мінула 50 гадоў, як Беларусь засталася без Янкі Купалы. 28 чэрвеня, у дзень трагічнай гібелі паэта, на беразе Свіслачы ў парку, які носіць яго імя, адбыўся жалобны мітынг. Адметнасць яго ў тым, што тут адкрыта, у поўны голас прагучала абвінавачанне рэжыму, які знішчыў Янку Купалу, рэжыму, пры якім гінулі, пазбаўляліся волі лепшыя сыны народа, цвет нацыі, яе розум і сумленне. Той страшны час чорным ценем лёг на нашу гісторыю. Беларусы згубілі арыенціры, зракліся сваёй мовы, страцілі пачуццё нацыянальнай гордасці, не адчуваюць патрэбы шанаваць і берагчы свае святыні. На мітынгу выступалі Васіль Быкаў, Сяргей Грахоўскі, Максім Лужанін, Барыс Сачанка, паэты чыталі вершы, прысвечаныя Янку Купалу, артысты спявалі песні, але перад помнікам паэту стаяла зусім нямнога людзей. «Сёння думаецца, — сказаў Сяргей Грахоўскі, — каб наш народ сапраўды адчуў сябе народам, тут было б не 100 чалавек, а палова сталіцы».

Сяргей Грахоўскі, сучаснік Янкі Купалы, які ведаў песняра асабіста, падзяліўся ўспамінамі, падкрэсліўшы, што ў яго ўяўленні паэт заўсёды жывы. «І пакуль ёсць на зямлі хоць адзін беларус, будзе жыць і Купала». А сёння, у наш цяжкі час, усім нам не стае самога паэта, яго несмяротнага слова.

Пра тое, што Купала паэт надзвычай сучасны, гаварыў і Максім Лужанін. Яго сучаснасць адчуюць і будучыя пакаленні, таму што сам Купала глыбока аналізаваў час, у які жыў, заўсёды быў паэтам нацыянальным і сацыяльным.

Пра тое, што Янка Купала, сын беларускай нацыі, стаў ахвярай рэжыму, якому ён замінаў самім сваім існаваннем, гаварыў Васіль Быкаў. «Забіўшы паэта, ворагі беларушчыны радаваліся: адным апосталам стала меней. Ён жа зло адолець не змог, але і не скарыўся яму». Пісьменнік заклікаў да вернасці памяці Янкі Купалы, яго творчасці і запаветам.

Барысам Сачанкам многа зроблена для таго, каб вядомай стала таямніца, пры якіх трагічных абставінах у чэрвені 1942 года ў Маскве пайшоў з жыцця Янка Купала. Усё больш і больш даходзіць да нас сведчанняў людзей, якія могуць праліць святло, дадаць новыя факты і дэталі, звязаныя са смерцю паэта. Тыя, хто ўбіраў з дарогі Янку Купалу, сказаў Б. Сачанка, не спадзяваліся, што іх дзеянні стануць вядомымі. Прыйдзе час, і мы пазнаёмімся з дакументамі, пасля чаго знікнуць апошнія сумненні: «Яны думалі, што калі заб'юць Купалу, то заб'юць Беларусь, а Беларусь жыве!»

Да падножжа помніка Янку Купалу былі ўскладзены кветкі, перавітыя бел-чырвона-белай стужкай. Вянкі і кветкі былі ў руках тых, хто па праспекце Францішка Скарыны накіраваўся на Вайсковыя могілкі, да месца вечнага спачыну песняра. На магіле адбылася кароткая паніхіда. У гэты дзень кветкіляглі і на магілу маці Янкі Купалы. Ёй наша вечная ўдзячнасць за тое, што дала Беларусі геніяльнага сына, які стаў яе гордасцю і сумленнем.

Купалаўскія дні ў нашай рэспубліцы толькі пачаліся. У ліпені мы будзем адзначаць 110-годдзе з дня нараджэння паэта. Урачыстасці пройдуць у Мінску, у Вязынцы, на Лагойшчыне. Пра іх мы раскажам у адным з бліжэйшых нумароў «Голасу Радзімы».

**НА ЗДЫМКАХ: шэсце па праспекце Ф. Скарыны; ля магілы Я. Купалы выступае Васіль БЫКАЎ.**

## ЯЎГЕН ЦУМАРАЎ: «АДРАДЖЭННЕ ПОЙДЗЕ ПРАЗ ФАРМАВАННЕ НОВАГА ПАКАЛЕННЯ»

# КАМУ ПАТРЭБЕН НЯМЕЦКАМОЎНЫ БЕЛАРУС

Для мяне яна была, як першая ластаўка, што, вядома, хоць вясны і не робіць, але яе прадвяшчае. Таму я часта знарок садзіўся ў трамвай № 1, які ходзіць паміж Зялёным Лугам і аўтазаводам, каб пачуць: «Наступны прыпынак... Асцярожна, дзверы зачыняюцца!» Гэта быў адзіны на ўсю сталіцу трамвай, дзе вадзіцель вось так проста, без загаду начальства, вазьмі ды аб'яўляй прыпынкі па-нашаму, па-беларуску.

З той пары мінула гады два, і ці-то мне не шанцуе, ці нешта здарылася, але не магу патрапіць на той адзіны трамвай, дзе мілагучны голас жанчыны прыпынкі аб'яўляе па-беларуску. Напэўна тая ластаўка, не дачакаўшыся вясны, змоўкла. Можа, яе зацюкалі, збянтэжылі зусім іншыя галасы, раздражнёныя і нахабныя, якія ўзмацняюцца па меры таго, як набліжаецца тэрмін ажыццяўлення закона аб мовах у Беларусі. Пасля першага спалоху, ачомаўшыся ды бачачы нашу занадта дэмакратычную дэмакратычнасць, тыя сілы, якім назаляе наш суверэнітэт, пайшлі ў наступ: «Зачем нам этот белорусский язык!» І не адкуль-небудзь з пазавуголля раз-

(Заканчэнне на 6-й стар.).

ДЗЕНЬ ВЫЗВАЛЕННЯ



**Мала ў нас засталося святаў і памятных дат ад таго, савецкага часу. Але Дзень вызвалення Беларусі ад нямецкіх акупантаў яшчэ, відаць, будзе доўга жывіць нашу памяць і ўзрушаць пачуцці. Гэтага так лёгка не выкрасліш, не адкінеш. Ды і ці трэба адкінуць, забыцца, выкрасліць, як заклікаюць некаторыя скраспелыя дэмакраты! Вайна, якую перажыў наш народ, яшчэ доўга будзе трывожыць нашы раны, і фізічныя і душэўныя. Дарма што з таго незабыўнага дня вызвалення нашай сталіцы 3 ліпеня 1944 года, які потым стаў сімвалічным Днём вызвалення ўсёй Беларусі, мінула столькі зім і лет. Зберагаючы добрыя традыцыі і памяць аб ахвярах вайны, народ, які жыве сёння на беларускай зямлі, ушаноўвае змагароў за нашу незалежнасць.**

**НА ЗДЫМКУ: Мінск, плошча Перамогі. 3 ліпеня 1992 года.**

ПАРТРЭТ ДЫПЛАМАТА

## ПАСОЛ УКРАІНЫ

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Украіны ў Рэспубліцы Беларусь Уладзімір Жаліба 30 чэрвеня ўручыў вярыцельныя граматы Старшыні беларускага парламента Станіславу Шушкевічу.

Уладзімір Іванавіч Жаліба нарадзіўся 24 лютага 1934 года, украінец. Скончыў сельскагаспадарчы інстытут у горадзе Умань па спецыяльнасці аграном-глебазнаўца.

З 1957 года ён працаваў у Цярнопальскай вобласці аграномам, галоўным аграномам, начальнікам райсельгасінспекцыі, галоўным дзяржаўным інспектарам па закупках. З 1962 года займаў розныя пасады ў партыйным апараце. З 1971 года — першы намеснік старшыні Цярнопальскага аблвыканкома. З 1973 года — слухач Акадэміі грамадскіх навук пры ЦК КПСС. З 1980 года — старшыня выканкома абласнога Савета народных дэпутатаў, старшыня абласнога Савета народных дэпутатаў у Кіраваградзе. З 1992 года — член Камісіі Вярхоўнага Савета Украіны па пытаннях дзейнасці Саветаў народных дэпутатаў.

Жанаты, мае 2 дзяцей.

**НА ЗДЫМКУ: Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Украіны ў Рэспубліцы Беларусь Уладзімір ЖАЛІБА ўручае вярыцельныя граматы Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіславу ШУШКЕВІЧУ.**



АБ ВАЙНЕ

## НЕЗВЫЧАЙНАЯ ВЫСТАЎКА

**Цэнтр ваеннай гісторыі ЗША, пасольства ЗША ў Мінску і Міністэрства культуры Беларусі падрыхтавалі ў Музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны выстаўку «Роля ЗША ў другой сусветнай вайне». Яе адкрыццё адбылося 3 ліпеня, у Дзень вызвалення Беларусі. На цырымоніі адкрыцця былі Часовы Паверены ў справах ЗША ў Беларусі Дэвід Суорц, міністр культуры Беларусі Яўген Вайтовіч. Дырэктар музея Аляксандр Ульяновіч прыняў экспанаты на захаванне.**

ПАСТАНОВА

## НАДЗВЫЧАЙНЫЯ МЕРЫ

**У сувязі з крытычнай абстаноўкай, якая складваецца з фарміраваннем дзяржаўных рэсурсаў збожжа, недахопам валютных сродкаў для набыцця яго за рубяжом і ў мэтах задавальнення патрэбнасцей насельніцтва рэспублікі ў хлебапрадуктах, а жывёлагадоўчых комплексаў і птушкафабрык у камбікармах Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прыняў пастанову аб надзвычайных мерах па фарміраванню дзяржаўных рэсурсаў збожжа ў 1992 годзе.**

**У ёй прадугледжваецца сфарміраваць сёлета дзяржаўныя рэсурсы збожжа на харчовыя, насенныя, фуражныя мэты і для прамысловай перапрацоўкі ў аб'ёме 4,5 мільёна тон.**

*«На жаль, час няўмольны і з кожным годам колькасць тых, хто вызваляў Беларусь, памяншаецца і памяншаецца. Па даных на першае студзеня гэтага года ў рэспубліцы пражывала каля 270 тысяч удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны, з іх 70 тысяч — інваліды. Як яны жывуць у наш складаны час, аднаазначна адказаць нельга, але пераважнай большасці прыходзіцца вельмі нялёгка. Цяжка і з матэрыяльнага пункту гледжання, і з маральнага.*

*Асноўная праблема — той узровень пенсіі, які зараз ёсць, не забяспечвае чалавеку ў поўнай меры хоць бы мінімальны пражытачны мінімум. Пенсіянеры, зразумела, за модай не гоняцца, але зараз і самыя звычайныя, самыя найпрасцейшыя рэчы сталі многім не па кішэні! А ветэраны з сельскай мясцовасці, яны апынуліся ў найгоршых умовах. Пасадзіць соткі, прывезці дровы, сена — усё гэта раней зрабіць было значна прасцей, чым зараз, калі немагчыма купіць нават тую ж бутэльку гарэлкі. А хто без яе дапаможа старым людзям?»*

*(З інтэрв'ю «Народнай газеце» Міхаіла ЖУКОЎСКАГА, Старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі па справах ветэранаў вайны, працы і ўзброеных сіл).*

АФІЦЫЙНАЯ ХРОНІКА

## ПРЫСВАЕННЕ ДЫПЛАМАТЫЧНЫХ РАНГАЎ

Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Ніне Мазай — пастаяннаму прадстаўніку Рэспублікі Беларусь пры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па пытаннях адукацыі, навукі і культуры (ЮНЕСКА) і Анатолю Мардовічу — пастаяннаму прадстаўніку Рэспублікі Беларусь пры аддзяленні ААН і іншых міжнародных арганізацыях у Жэневе прысвоены дыпламатычны ранг Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасланніка першага класа.

Дыпламатычны ранг Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасланніка другога класа нададзены Аляксандру Бубену — пастаяннаму прадстаўніку Рэспублікі Беларусь пры міжнародных арганізацыях у Вене і Аляксандру Васільеву — намесніку пастаяннага прадстаўніка Рэспублікі Беларусь пры ААН.

ЖЫЦЦЁ У ЛІЧБАХ

## У БЕЛАРУСІ ЛЕПШ

Беларусі пакуль што ўдаецца стрымліваць абвальнае зніжэнне вытворчасці і ўзроўню жыцця насельніцтва. Зніжэнне нацыянальнага даходу ў рэспубліцы было найменшым сярод усіх рэспублік СНД. У студзені—маі г. г. яно склала 15 працэнтаў, у студзені—красавіку — 13 працэнтаў. У Расіі нацыянальны даход знізіўся ў студзені—красавіку на 14 працэнтаў, на Украіне — на 19, у Казахстане — на 25, Малдове, Узбекістане — на 27 працэнтаў. Менш чым у іншых рэспубліках, у параўнанні з аднаведным перыядам мінулага года, скарацілася аб'ём вытворчасці (на 9,2 працэнта), рознічны тавараабарот (на 35,7 працэнта ў супастаўных цэнах), вытворчасць тавараў народнага спажывання (на 7,1 працэнта). Прычым скарачэнне вытворчасці гэтых тавараў адбылося з-за зніжэння на 24,3 працэнта выпуску прадуктаў харчавання (таксама, зрэшты, найменш пакаачык сярод усіх рэспублік). Аб'ём вытворчасці нехарчовых тавараў павялічыўся за 4 месяцы 1992 года ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года на 1,1 працэнта.

Намінальныя грашовыя даходы насельніцтва выраслі на 376,5 працэнта. Гэты паказчык больш толькі ў Расіі (413,3 працэнта). Аднак цэны на асноўныя прадукты харчавання ў рэспубліцы ў маі гэтага года былі ў 1,5—3,5 раза ніжэйшыя, чым у Расіі, Літве і на Украіне.

НАША КВОТА

## РАСІЙСКАЯ НАФТА

Згодна з міжурадавым пагадненнем, Расійская Федэрацыя павінна накіраваць у Беларусь у 1992 годзе 30 мільёнаў тон нафты. Пакуль што выдзяленне нафты Беларусі, паводле даных Міністэрства паліўна-энергетычных рэсурсаў Расіі, перавышае выдзеленыя квоты на 3 працэнты і складае ўжо амаль 11 мільёнаў тон. У цэлым жа пастаўка нафты з Расіі ў Беларусь у параўнанні з мінулым годам скарочана на 22—24 працэнты.

Гэту лічбу можна ацэньваць па-рознаму, бо, напрыклад, у Літву, будзе накіроўвацца «чорнага золата» менш на 54 працэнты, а вось у Казахстан — на 12 працэнтаў больш. У цэлым жа Расія прытрымліваецца выканання міжурадавых пагадненняў з такімі рэспублікамі СНД, як Беларусь, Украіна, Казахстан Узбекістан, а таксама Літвой.

КАДРЫ І РЫНАК

## ПЕРШЫ ВЫПУСК

**У Акадэміі кіравання пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь адбыўся першы выпуск. Каля сотні кваліфікаваных спецыялістаў, якія не адзін год працавалі на прадпрыемствах і ў дзяржаўных установах, прайшлі напружаную праграму навучання тэорыі і практыкі рыначнай эканомікі, вывучалі асновы правоў, менеджмента, банкаўскай справы, тонкасці вядзення дзелавых перагавораў.**

**Першых выпускнікоў вітаў і пажадаў ім плённай працы прэм'ер-міністр Беларусі Вячаслаў Кебіч. У сваім выступленні ён расказаў аб тым, якія складаныя задачы трэба будзе вырашаць сёння гаспадарнікам і кіраўнікам, якіх новых ведаў запатрабуе ад іх рашэнне знешнеэканамічнай дзейнасці. Такія веды можна атрымаць толькі ў краінах з добрымі рыначнымі традыцыямі, і рэспубліка, запэўніў Кебіч, знойдзе валюту для навучання і стажыровкі нашых спецыялістаў, чаго б гэта ні каштавала. Усямерная падтрымка з боку ўрада будзе аказвацца і Акадэміі кіравання, якая за кароткі час стала адным з важнейшых звёнаў у сістэме падрыхтоўкі спецыялістаў-рыначнікаў.**

У РУБЛЁВАЙ ЗОНЕ

## БУДЗЕМ АБАРАНЯЦЦА

**Ёсць звесткі, што Украіна выходзіць з рублёвай зоны. «У выпадку, калі беларускі рынак акажацца ў выніку гэтага запоўненым расійскімі грашамі, — заявіла начальнік упраўлення грашовага абарачэння Нацыянальнага банка Беларусі Тамара Каржанеўская, — дык наша рэспубліка цалкам пяройдзе на разліковыя білеты, а рублі будуць зняты з абарачэння».**

**Любая дзяржава СНД, прыняўшы рашэнне аб уводзе сваёй нацыянальнай валюты, павінна зняць з абарачэння ранейшыя грошы і здаць іх у Расійскі банк. Калі ўмовы дагавора якой-небудзь з рэспублік не будуць выкананы, то яе суседзі будуць вымушаны абараняцца.**

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

● Толькі за апошні час больш за паўтары тысячы маладых таленавітых вучоных пакінулі Акадэмію навук Беларусі. Прычына — адсутнасць грашовых сродкаў на дастойную аплату працы вучоных.

● На тэрыторыі Беларусі загінула больш 1 мільёна воінаў і партызан, а вядомы імёны толькі 317 тысяч 190 чалавек.

● Старшыня праўлення Нацыянальнага банка Станіслаў Багданкевіч прызначаны кіраўніком Міжнароднага валютнага фонду і Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця ад Рэспублікі Беларусь.

● Выходзіць з друку другі выпуск штогодніка гістарычнай літаратуры «Бацькаўшчына». Ён будзе апошнім — задуманая серыя скасавана, бо наш кнігагандаль па-ранейшаму лічыць беларускую кнігу стратнай.

● У Беларусі з'явіліся першыя рээмігранты. Гэта людзі, якія некалькі гадоў назад выехалі ў ЗША і не прыжыліся там. У Вярхоўны Савет рэспублікі хутка павінны прыбыць яшчэ каля сотні заяў з Расійскага МЗС з просьбай даць магчымасць вярнуцца на радзіму.

● Як паведаміў Дзяржкамчарнобыль РБ, за апошнія 3 гады ў Беларусі афіцыйна не зарэгістравана выпадкаў спажывання насельніцтвам прадуктаў харчавання, якія распаўсюджваюцца праз дзяржаўны гандаль, звыш нормы забруджаных радыенуклідамі.

● З пачуццём крыўды і абразы пакінула Беларусь Астрыд Стрэн, якая прыехала да нас са Швецыі на чале дабрачыннай дэлегацыі. Вечарам на мінскай вуліцы Пляханава яе акружылі трое мужчын і сарвалі з шыі залаты ланцужок.

ЦЯЖКІЯ ПРАБЛЕМЫ

# ЗАХАВАЦЬ ЦЕЛА, НЕ ПАШКОДЗІЦЬ ДУШУ

**У канцы мінулага года ў нас у рэспубліцы была створана «Асацыяцыя бацькоў дзяцей-інвалідаў». У яе аб'ядналіся людзі, поўныя рашучасці дапамагчы сабе і сваім дзецям, якія пакутуюць ад страшных невылечных хвароб. Падобныя грамадскія аб'яднанні ва ўсім свеце не навіна, мы ж доўга спадзяваліся толькі на дапамогу дзяржавы. Але з кожным годам падтрымка гэта слабее, а колькасць дзяцей-інвалідаў павялічваецца. Чаму так адбываецца, якія праблемы даводзіцца рашаць такім гаротнікам і іх бацькам? На гэтыя і іншыя пытанні адказвае галоўны дзіцячы псіхіятр Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь, кандыдат медыцынскіх навук Наталля ГРЫГОР'ЕВА.**

*— Наталля Канстанцінаўна, скажыце, калі ласка, ці заўсёды бацькі вінаваты ў тым, што ў іх нараджаюцца дзеці з тымі ці іншымі парушэннямі?*

— Калі маці ў час цяжарнасці перанесла вірусны грып, краснуху або якое іншае віруснае захворванне, то і дзіця пераносіць гэтыя хваробы, не паспеўшы з'явіцца на свет. Многія захворванні выкліканы спадчыннымі прычынамі, калі бацькі, будучы практычна здаровымі, з'яўляюцца носьбітамі мутантных генаў. Спадчынных захворванняў вельмі і вельмі шмат. Не ўсе іх мы яшчэ ведаем і можам дыферэнцыраваць, а таму ні бацькі, ні сваякі іх тут невінаватыя. Я — за тое, каб як калісьці ў царскай Расіі і як зараз ва ўсіх цывілізаваных краінах, у сем'ях былі радаслоўныя. Бо калі мы гаворым: Вікторыя такога роду выйшла за Генрыха такога роду, мы можам прасачыць усю іх генеалогію. А сёння, знаёмячыся з маладымі парамі, пераконваешся, што яны не ведаюць нават сваіх дзядуль і бабуль. Аднак, каб выявіць мутантныя гены, трэба рабіць вельмі складаныя біяхімічныя пробы, якія, па-першае, вельмі груваcткія, а па-другое, вельмі дарагія для нас.

Многія наогул не ведаюць аб існаванні кансультацый такога тыпу, падумала я. А размова ж ідзе аб самым галоўным — аб існаванні сям'і, аб жыцці будучых дзяцей, аб будучыні... Эканомія на стварэнні службы генетычнага кантролю, якая здольная прадухіліць тысячы трагедый, абарочваецца тым, што грамадства вымушана выкладваць грошы на будаўніцтва дамоў-інтэрнатаў, на выхаванне і пажыццёвае ўтрыманне калек. Думаю, ніякія выдаткі не акупяць трагедыі бацькоў, у якіх нарадзілася хворае дзіця.

*— Наталля Канстанцінаўна, а ці ўплывае на гены стан навакольнага асяроддзя?*

— Вядома. Возьмем радыяцыю, Чарнобыль. Мы ўжо зараз бачым, што працэнт дзяцей з рознымі формамі прыроджанага або набытага ў раннім дзяцінстве псіхічнага недаразвіцця, па даных уліку, застаўся тым жа, але ідзе рост так званых эндагенных форм, форм, звязаных з мутацыяй генаў і з храмасомнымі змяненнямі. Хвароба Даўна якраз з'яўляецца вынікам гэтых адмоўных працэсаў.

*— Ці можна сёння гаварыць, што Чарнобыль ужо даў якіясьці сумныя вынікі?*

— Так. Лічыцца, што хвароба Даўна паяўляецца ў дзяцей, чые маці працуюць на хімічнай вытворчасці, у жанчын, якія нараджаюць пасля сарака гадоў. Дык вось, тыя ж, што і ў гэтых выпадках, храмасомныя парушэнні могуць выклікацца і радыяцыяй, таму мы са страхам чакаем росту спадчынных форм псіхічнага недаразвіцця.

*— Ці можа хоць частка непайнацэнных дзяцей паступова прыстасавацца да жыцця?*

— Дзеці з лёгкай формай псіхічных парушэнняў або хваробай Даўна, займаючыся ў спецшколах, за 8—10 гадоў навучання праходзяць праграму 4—5 класаў агульнаадукацыйнай школы, атрымліваюць і працоўныя навыкі. І вельмі сумна, калі яны ўсё ж трапляюць у дом інвалідаў. Проста павінны быць людзі, пад наглядам якіх дзеці працуюць, павінны быць кваліфікаваныя майстры, адпаведныя майстэрні. Дзеці вырастаюць, адчуваючы сябе патрэбнымі, прыстасоўваюцца да жыцця.

Мы зараз бяром нямецкія метадыкі і будзем па іх працаваць з такімі дзецьмі, як гэта робіцца ў ЗША, Германіі, — працягвае Наталля Канстанцінаўна. — Там дзеці з хваробаю Даўна, напрыклад, не накіроўваюцца ў спецыяльныя школы, а займаюцца ў агульнаадукацыйных па аблегчанай праграме. Для здаровых дзяцей вельмі важна, як адносяцца да той ці іншай праблемы старэйшыя, хто карыстаецца ў іх аўтарытэтам. І калі настаўнік пра хворае дзіця скажа са спачуваннем і любоўю, астатнія будуць ставіцца да яго з павагай, то хворае дзіця хутчэй рэабілітуецца. Так робіцца за рубяжом, дзе сярод нармальных знаходзіцца дзіця з аслабленымі здольнасцямі, і аднагодкі апякаюць яго. Яны завязваюць хвораму шнуркі, вядуць у сталоўку, памагаюць рыхтаваць урокі, і яно не адчувае сябе адзінокім і прыніжаным, бо іншыя клапоцяцца пра яго больш, чым адно аб адным. Такая ўвага неабходна здаровым дзецям яшчэ і таму, што зараз расце паталогія фарміравання характару, якая, на жаль, закранае крымінальны бок жыцця. І калі раней правапарушэнні ўзнікалі ў падлеткаў 16—17 гадоў, то зараз ідзе амаладжэнне: характары пачынаюць няправільна фарміравацца з 12—13 гадоў. Раней большасць правапарушэнняў рабілася хлопчыкамі, зараз сярод ненадзейных дзяцей шмат і дзяўчынак. Прычым, яшчэ не так даўно мы маглі з упэўненасцю сказаць, што большасць небяспечных падлеткаў з няпоўных сем'яў або з сем'яў, дзе злоўжываюць алкаголем, а цяпер гэта дзеці з добрых сем'яў. І нягледзячы на тое, што бацькі і дзеці нядрэнна забяспечаны матэрыяльна, злачынствы ўчыняюцца з меркантыльнымі мэтамі.

*— А ў чым прычыны такой з'явы?*

— Палітычная нестабільнасць грамадства, страта маральных арыенціраў — усё гэта ў першую чаргу адбіваецца на моладзі. Я была на сімпозіуме, дзе выступаў нямецкі прафесар, які гаварыў, што ў іх было шмат такіх дзяцей у самы цяжкі для Германіі час — у час вайны і пасля яе, калі нішчыліся старыя ідэалы і яшчэ не былі знойдзены новыя, калі ў палітыцы і эканоміцы панавалі хаос і разбурэнне. Як толькі пачало наладжвацца жыццё, да лепшага зрушылася становішча з дзіцячай злачыннасцю. А ў нас зараз усё грамадства знаходзіцца ў стане істэрыі. Няма ніякіх устояў. Калі хворае грамадства, у першую чаргу хварэюць дзеці. Мы стаміліся, нам цяжка, мы спяшаемся, а, магчыма, менавіта зараз і надышоў такі час, калі трэба спыніцца і ўспомніць тое, пра што яшчэ тысячы гадоў назад было напісана ў Вялікай кнізе: якая карысць чалавеку, калі ён набудзе ўвесь свет, а душы сваёй зробіць шкоду? Захаваць жа яе могуць памагчы толькі клопат пра бліжняга, уменне прымаць да сэрца чужую бяду, як сваю ўласную. Магчыма, і мужная Спарта, якая славілася сваімі ваеннымі перамогамі, урэшце загінула ад таго, што жорстка і планамерна пазбаўлялася ад слабых і хворых? Затухае ў сэрцах міласэрнасць, любоў, гіне грамадства. У блакадным Ленінградзе, дзе, згадзіцеся, было куды больш цяжка, чым нам цяпер, выжылі не тыя, хто думаў, як выжыць самому, а тыя, хто клапаціўся пра іншых.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

*З ПЛЫНІ ЖЫЦЦЯ*






**Яны, бы тыя барадаўкі, што бэсцяць мілы твар; панаторканыя ўздоўж праспекта Ф. Скарыны, самых ажыўленых вуліц і бойкіх плошчаў, яны псуюць і нявечаць архітэктурны ансамбль сталіцы. Можа падацца на першы беглы позірк, што Мінск апанавала чужародная арда; куды ні сунешся — усюды гэтыя кібіткі. У народзе іх называюць яшчэ буданамі, шпакоўнямі, скрынямі. А афіцыйна яны носяць назву: камерцыйныя магазіны. Змайстраваныя на адзін капыл, яны адрозніваюцца толькі назвамі, бо і тавар, як правіла, усюды адзін і той жа, прывезены з рынкаў Польшчы, Турцыі і нават Амерыкі. Назвы ж, калі іх чытае хто-небудзь іншы, а ты слухаеш, заплюшчыўшы вочы, будзяць фантазію і малююць паветраныя замкі: «Крама «Аверс-L», «DDD — Цэнтр», «Руслан і Людміла», «Брег Ltd». «Унія».**

**Кібіткі-шпакоўні — гэта ўжо набытак посткамуністычнага грамадства, якое вобмацкам шукае светлую дарогу да рынку. І пакуль адны, значная большасць, натыкаюцца на ёй на нізкую зарплату, беспрацоўе, шалёныя цэны, недаступныя лекі ды іншыя «часовыя цяжкасці», другія, больш спрытныя і абароцістыя, робяць свой бізнес і маюць з гэтага неблагі навар. Вядома ж, за кошт першых.**

**Дарэчы, днямі ў сталіцы прайшоў беларуска - амерыканскі семінар «Хрысціянства як маральная аснова бізнесу», на якім амерыканскія псіхолагі, спецыялісты па маркетынгу, выкладчыкі і журналісты пераконвалі нашага брата — беларускага камерсанта ў неабходнасці звярнуцца да Бога, каб зрабіць свой бізнес сумленным. Думаецца, што гэта было, як гарохам аб сценку. Прынамсі, для тых маладых і здаровых хлопцаў і дзяўчат, што гандлююць у камерцыйных крамах, і якіх у народзе па-ранейшаму завуць спекулянтамі, Бог адзін — нажыва.**

**Купіць месца пад такую краму каштуе 30—50 тысяч рублёў. Гарадскія ўлады прадаюць пляцы направа і налева, так што шпакоўнямі застаўлены ўжо ўсе праходы і выхады, і людзям даводзіцца праціскацца паміж імі, каб трапіць на вуліцу. Большасць мінчан праходзяць паўз гэтыя буданы абыякава ці кідаюць злыя позіркі — цэны на заморскія тавары, якімі забіты крамы, ім не па кішэні. Таму і стаўленне да сучасных нувярышаў адмоўнае ў большасці насельніцтва. Час ад часу то ў адным канцы горада, то ў другім камерцыйныя шпакоўні рабуюць і паляць. Хто гэта робіць! Кажуць, што простыя рабацягі, якія ненавідзяць спекулянтаў, а магчыма і рэкеціры, якія абкладаюць данінай малады бізнес, а непаслухмяных караюць такім вось чынам.**

**Ці выйдуць з цяперашніх хвацкіх гандляроў Сайрусы Ітаны, чые магазіны ўпрыгожваюць амерыканскі кантынент! Наўрад ці гэта будзе... А хай бы ўжо мелі свайго цывілізаванага бізнесмена...**

**НА ЗДЫМКАХ: камерцыйныя крамы — непазбежны элемент сучаснага гарадскога пейзажу.**

**Фота В. СТАВЕРА.**



# НЕ ТРЭБА ДУРЫЦЬ ЛЮДЗЕЙ

**(З ІНТЭРВ'Ю СТАРШЫНІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ С. ШУШКЕВІЧА КАРЭСПАНДЭНТУ АГЕНЦТВА «ІНТЭРФАКС»)**

**— Станіслаў Станіслававіч! Вы ўжо расказвалі журналістам пра свае адносіны да рэферэндуму аб даверы да парламента. Ён, напэўна, адбудзецца. Як Вы лічыце, у выпадку магчымай адстаўкі цяперашняга Вярхоўнага Савета новыя выбары сапраўды будуць праводзіцца па распрацаваным парламенцкай апазіцыяй законе!**

— Нельга дапускаць абсурду. Перакананы: цяпер самай галоўнай задачай з'яўляецца прыняцце новай Канстытуцыі. А ўжо зыходзячы з яе палажэнняў, на мой погляд, павінен распрацоўвацца новы закон аб выбарах. Работа над праектам Асноўнага закона незалежнай Беларусі ўжо завяршаецца. Ён прайшоў «абкатку» ў парламенцкіх камітэтах і камісіях, яго аналізавалі буйнейшыя ў свеце спецыялісты ў галіне права — эксперты Еўрапарламента. На 26 старонках дробным почыркам прафесіяналы з сусветным імем па кожным пункце кожнага артыкула новай Канстытуцыі ўнеслі свае заўвагі. Усе яны ўлічваюцца, аналізуюцца, у дакумент уносяцца адпаведныя карэктывы. Такім чынам, з пункту гледжання міжнародных нормаў наша новая Канстытуцыя фактычна бездакорная.

Такім жа бездакорным павінен быць і новы закон аб выбарах. Трэба прызнаць: ранейшы дакумент быў тэндэнцыйным, у многім меў рысы старой сістэмы. Цяпер мы хочам стварыць новы, дэмакратычны. Але пагадзіцеся, што лідэры апазіцыі са сваімі экспертамі, якія распрацоўваюць свой варыянт закона аб выбарах, не здолеюць зрабіць яго больш сучасным з пункту гледжання міжнароднага права, чым гэта можам зрабіць мы, паколькі і тут нам дапамогуць еўрапарламенцкія спецыялісты. Распрацоўшчыкі самі далёка не прафесіяналы, а аматары, энтузіясты. І эмацыянальнае ўспрыманне ў іх пераважае над прафесіянальным. Ствараецца ўражанне, што лідэры апазіцыі гэтага не хочуць разумець. Але, захопленыя ўласнай ідэяй, яны ўсё роўна павінны правесці свой законапраект праз усе парламенцкія працэдуры. Толькі тады гэты дакумент можа быць прыняты. А пакуль гэта толькі гульня ў палітыку, жаданне сутыкнуць ілбамі людзей, якіх мы не маем права, прабачце, дурыць!..

Канстытуцыя будзе прынята ў бліжэйшы час. Тады пагаворым і пра новы закон аб выбарах.

**— Вы хочаце сказаць, што рэферэндум будзе праводзіцца толькі пасля прыняцця новай Канстытуцыі!**

— Не, я гэтага не сцвярджаю. Але лічыў бы гэта лагічным.

Тут важна не грэбаваць воляй зацікаўленых людзей (маецца на ўвазе больш як 400 тысяч чалавек, якія выказаліся за правядзенне рэферэндуму з пытаннем, толькі што сфармуляваным лідэрамі апазіцыі, — «ІФ»). Ва ўсякім выпадку новы закон, прыняты канстытуцыйна парламентам, і толькі тады можна гаварыць аб новых выбарах. Адзначу: тут Вярхоўны Савет не збіраецца праводзіць палітыку адцягвання. Цяпер ідзе работа над новым законам аб выбарах, узгодненым з новай Канстытуцыяй. Але яго можна прывязаць і да старой Канстытуцыі. Тут праблем няма, але што лепш?..

Што дасць адстаўка парламента і ці будзе яна? Вы ведаеце, цяперашні Прэзідыум Вярхоўнага Савета, дэпутаты праяўляюць у нейкай меры велікадушнасць у тым, што не шукаюць фармальных зачэпак для адмены рэферэндуму. Толькі фармальнымі зачэпкакі можна было б спыніць рэферэндум. Але мы будзем вышэй за гэта. Няхай нават вынікі ўсенароднага галасавання пакажуць недавер народа да Вярхоўнага Савета і ўрада, адстаўкі можа не адбыцца. Прачытайце ўважліва закон аб рэферэндуме! Згодна з ім, парламент прымае рашэнне аб тым, якім быць характару рэферэндуму — «кансультатыўным» ці «абавязковым».

*У ТАВАРЫСТВЕ «РАДЗІМА»*

# НАЙБОЛЬШЫЯ ВОРАГІ БЕЛАРУСАЎ—САМІ БЕЛАРУСЫ

Шэсць разоў за апошнія некалькі гадоў пабываў на Бацькаўшчыне аўцец Аляксандр Надсон. Місія, з якой перасякае ён мноства граніц, высакародная і патрэбная: ён вязе лекі, вітаміны, медыцынскае абсталяванне ў бальніцы, дзе пакутуюць людзі, і, у першую чаргу, дзеці, якія сталі ахвярамі Чарнобыля. У Хойніцкім, Брагінскім раёнах ужо ведаюць яго невялікі аўтобус, што вязе надзею і міласэрнасць.

У гэты свой прыезд айцец Надсон знайшоў час і наведаў Беларускае таварыства «Радзіма», з якім даўно ўжо мае даволі плённую сувязь. Ад «Радзімы» прыязджаў у Скарынінскі цэнтр у Лондане беларускі вучоны Адам Мальдзіс, пра якога айцец Надсон гаворыць з вялікай павагай, бо ён многа прыклаў намаганняў дзеля ўмацавання сувязей паміж тутэйшымі беларусамі і суайчыннікамі за Ла-Маншам, як старшыня камісіі «Вяртанне» пры Беларускім Фондзе культуры рупіцца пра зварот на Бацькаўшчыну культурнай спадчыны беларусаў.

Я нагадала, што нядаўна «Голас Радзімы» змясціў артыкул пра Міколу Равенскага і спытала, ці не мог бы айцец Надсон паспрыяць, каб штосьці з музычнай спадчыны кампазітара вярнулася на яго радзіму.

— У свой наступны прыезд я прывязу ксеракопіі твораў Равенскага, — адказаў госць. — Яго творы ёсць у нас у Лондане ў бібліятэцы імя Скарыны. Але найбольш архівы Равенскага ёсць у Злучаных Штатах, у вучня кампазітара Янкі Запруднiка, у Беларускім інстытуце навукі і мастацтва ў Нью-Йорку.

— Айцец Надсон, як вы лічыце, пра каго яшчэ з беларускіх дзеячаў культуры, якія апынуліся на Захадзе па другой сусветнай вайне, варта было б напісаць?

— Пра многіх «Голас Радзімы», дзякуй Богу, ужо пісаў. Пра паэтку Наталлю Арсеньеву, кампазітара Кулiковіча-Шчаглова, пра Масея Сяднёва. Яшчэ варты ўвагі, здаецца мне, паэт Салавей. А так пісьменнікаў шмат, але добрых, значных мала. Выдатныя пісьменнікі кожны дзень не нараджаюцца. І цяпер тут, на Беларусі, пакуль што не бачу нічога выдатнага. Цікавыя спробы ёсць, але значнага пакуль што не заўважаю. Тое самае магу сказаць і пра мастацтва, і пра музыку. Беларусы так доўга былі абмежаваны ў сваіх магчымасцях, што сёння ідзе пошук свайго шляху. Новыя магчымасці стварыліся зусім нядаўна. Беларуская справа мае шмат цяжкасцей, — працягваў дзяліцца сваімі думкамі і назіраннямі айцец Аляксандр. — І ведаеце, я лічу, што найбольшыя ворагі беларусаў — самі беларусы. Ну вось такі прыклад: міністр, ці які іншы дзяржаўны дзеяч любой краіны, калі прыязджае ў чужую краіну, гаворыць або на мове гаспадара, або на сваёй уласнай. Беларусы гавораць чамусьці па-расейску. Або такі прыклад: перасякаем мы граніцу ў Брэсце, бачым «Пагоню» і надпіс па-расейску — «Республика Беларусь». Палякі пішуць сваю назву па-польску, немцы — па-нямецку. А мы? Калі мы сталі незалежнымі, дык і паводзіць сябе павінны адпаведна, як незалежны народ. Усё гэта, можна было б сказаць, дробязі, але яны маюць вялікае значэнне.

— Чым мы можам дапамагчы беларусам, якія жывуць у Англіі? — спытаў у свайго госця першы намеснік старшыні праўлення таварыства «Радзіма» Мікалай Васілёнак.

— Дзякуй за такое жаданне, але сёння мы больш думаем, якая ад нас можа быць дапамога, — адказаў айцец Надсон. — Цешымся, што маем, нарэшце, магчымасць прыехаць на Беларусь, сваімі вачамі на ўсё паглядзець. Радуе ў апошні час нас «Голас Радзімы». Вельмі добрае выданне. Шмат цікавага ў газеце.

— Вы і гэты раз прыехалі ў Беларусь з дапамогай. Як вы самі ставіцеся да гэтай сваёй місіі?

— Лічу, што гэта кропля ў моры. Усім не дапаможаш, таму вязём непасрэдна і ў пэўную бальніцу, дзе нас чакаюць, лекі, вітаміны. Прадукты не вязем, бо бачым, што людзі тут з голаду не паміраюць, голыя не ходзяць. Калі бываем у вёсках, гутарым з сялянамі, чуем ад іх: «Мы выжывем, мы не жабракі, але дапамажыце дзецям, лячыце іх». Я бачу ў гэтых людзей пачуццё годнасці, і мне гэта вельмі падабаецца.




**Айцец Аляксандр НАДСОН прывёз гуманітарную дапамогу ў Хойніцкую раённую бальніцу.**

— А як вы здабываеце лекі?

— Дзякуючы дабрачыннасці і беларусаў, і англічан, бо адны беларусы не выцягнулі б такую справу іх не так многа ў Англіі. А мы бачым, колькі чалавечнасці, дабрыні ў розных людзей. І гэта вельмі пацяшальны факт. Прыемна бачыць неабыякавасць да чужой бяды. З кожным разам пашыраюцца адрасы нашых прывозаў: Магілёўшчына, Бараўляны пад Мінскам. Лічым, што трэба будаваць новыя цэнтры для лячэння хворых. Будзем дапамагаць з абсталяваннем.

Сустрэча была не надта доўгай, але, як відаць, даволі многія аспекты нашага жыцця мы паспелі закрануць і абмяняцца думкамі. У час сваіх прыездаў на Беларусь айцец Аляксандр Надсон нарасхват. У таварыства ён прыехаў ад мастакоў, а праз гадзіну яго чакалі ў адной з бальніц Мінска.

**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

# НЯГЛЕДЗЯЧЫ НА КРЫЗІС СУВЯЗІ РАЗВІВАЮЦЦА

У пачатку чэрвеня гэтага года па запрашэнню таварыства «Радзіма» ў Беларусі знаходзілася дэлегацыя Беларускага грамадска-культурнага таварыства (БГКТ) з Беласточчыны. У склад прадстаўнікоў беларускай сябрыны з Польшчы ўваходзілі: старшыня прэзідыума БГКТ Алесь Баршчэўскі, намеснік старшыні Янка Сычэўскі, старшыня Камітэта па пабудове музея ў Гайнаўцы Кастусь Майсеня, а таксама член Галоўнай управы Валянціна Ласкевіч і Тамара Русачок. Галоўнай мэтай прыезду дэлегацыі і асноўным пунктам праграмы яе знаходжання ў Мінску былі перамовы з кіраўнікамі Беларусі па самаму шырокаму спектру пытанняў, звязаных з пашырэннем кантактаў паміж БГКТ і нашай рэспублікай, пры пасрэдніцтве Беларускага таварыства «Радзіма».

Дэлегацыя правяла сустрэчы з намеснікам старшыні Савета Міністраў РБ М. Дземчуком, міністрам замежных спраў П. Краўчанкам, міністрам культуры Я. Вайтовічам, міністрам народнай адукацыі В. Гайсёнкам і іншымі адказнымі асобамі.

Была дасягнута дамоўленасць па аказанню дапамогі беларусам Беласточчыны, у тым ліку і матэрыяльнай, якая знайшла адлюстраванне ў наступным. Ужо ў гэтым навучальным годзе вышэйшыя навучальныя ўстановы многіх гарадоў РБ прымуць на вучобу каля пяцідзесяці чалавек з ліку моладзі беларускіх асяродкаў Польшчы. Таварыства «Радзіма» сёлета будзе ладзіць адпачынак беластоцкіх дзяцей у лагеры, і навучанне актывістаў і кіраўнікоў мастацкай самадзейнасці на курсах павышэння кваліфікацыі.

Узнімаліся пытанні аб выданні ў Беларусі твораў беларускіх пісьменнікаў з Беласточчыны, падрыхтоўцы польска-беларускіх і беларуска-польскіх слоўнікаў.

Асобнай тэмай падчас перамоў абмяркоўвалася праблематыка помачы Музею беларускай культуры ў Гайнаўцы, на будаўніцтва і загаспадаранне якога польскія ўлады не асігнуюць сродкі, з яго аднак беручы высокія падаткі. Цяжкасці з фінансаваннем мае і само БГКТ, як і газета «Ніва», вакол якой, апрача іншага, разгортваюцца палітычныя баталіі.

Госці выказалі пажаданне аб хутчэйшым адкрыцці консульства Рэспублікі Беларусь у Беластоку. Адбылося іх знаёмства з паслом Беларусі ў Польшчы У. Сянько.

Афіцыйную частку праграмы знаходжання беларускай дэлегацыі БГКТ дапоўніла культурная: дэлегацыя была прынята на фестывалі песні, які прайшоў у Паставах.

**Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**



## ЮНЫЯ ЭКОЛАГІ

**Юныя эколагі, натуралісты і знаўцы прыроды з Брэсцкай, Магілёўскай і Мінскай абласцей сабраліся на беразе Мінскага мора ў экалагічным лагеры. Яны сустракаюцца тут з вядомымі вучонымі-біёлагамі, дзеляцца адзін з адным вопытам і ведамі, праводзяць дыспуты і выставы фларыстыкі, дзелавыя гульні, прапануюць праекты аховы прыроды.**

**Пасля заканчэння экалагічнай змены дзецям выдадуць дыпломы і пасведчанні інструктараў па натуралістычнай рабоце, якія дазволяць ім весці гурткі аматараў прыроды ў дзіцячых садах, школах, аздараўленчых лагерах.**

**НА ЗДЫМКУ: у паход за гербарыем.**

**Фота В. АЛЯШКЕВІЧА.**

### *НА ШЛЯХУ Ў ЕЎРОПУ*

# ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ЛІТОЎСКАЕ І ПРУСКІ ОРДЭН...

Што мы ведаем пра адносіны паміж гэтымі дзвюма дзяржавамі? Тое, што літоўскі і беларускі народы пакутавалі ад бясконцых набегаў нямецкіх рыцараў, што гэтыя рыцары імкнуліся акаталічыць, анямечыць, заняволіць, знішчыць беларусаў і літоўцаў і, нарэшце, тое, што руку дапамогі нашым пакутуючым народам працягвалі: а) польскія, б) рускія (тут магчымы варыянты) старэйшыя браты і выратавалі нас ад «знішчэння нацыянальнай культуры». Такая «польска-руская» канцэпцыя ўбівалася нам доўга, дастаткова доўга, каб не магло і думкі ўзнікнуць, што Вялікае Княства мела з Прускім і Лівонскім Ордэнамі цесныя культурныя, гандлёвыя сувязі, што абодвы гэтыя Ордэны неаднаразова выступалі ў якасці саюзнікаў вялікага князя, дапамагаючы яму ў барацьбе з татарамі і з рускімі, што, у рэшце рэшт, менавіта Прускі Ордэн быў той процівагай Польшчы, якая стрымлівала распаўсюджанне ўплыву апошняй на самастойную палітыку літоўска-беларускай дзяржавы і надоўга адтэрмінаваў яго рэальнае ўваходжанне ў склад Кароны.

Адным з момантаў барацьбы з Ордэнам традыцыйна лічаць Крэўскую ўнію 1386 года, калі Вялікае Княства і Польшча «аб'ядналі свае сілы для барацьбы з прускімі рыцарамі». Што ж было на самай справе?

Пасля смерці Людовіка Венгерскага паны Малой Польшчы ўзводзяць на трон сваю стаўленіцу — Ядвігу, а затым выдаюць яе замуж за вялікага князя літоўскага Ягайлу. Чаму менавіта за яго? Па некалькіх прычынах. Па-першае, Ягайла ўжо даўно вадзіў дружбу з малапольскімі панамі і, магчыма, па іх просьбе зрабіў у 1383 годзе набег на Мазовію, князі якой не мелі цёплых пачуццяў да Малой Польшчы. Па-другое, Ягайла быў адзінаўладным правіцелем Вялікага княства Літоўскага, на якое палякі даўно ўжо кідалі ўлюбёныя позіркі, і гэта павінна было забяспечыць неабмежаваны ўплыў Польшчы, і ў першую чаргу яе панства, на літоўска-беларускія землі. Па-трэцяе, Ягайла быў недалёкі і малаадукаваны чалавек да таго ж, зусім чужы ў каралеўстве, таму ён мог лёгка стаць (і стаў пазней) марыянеткай у руках польскай шляхты. І, нарэшце, Ягайла падыходзіў палякам для барацьбы з Ордэнам за польскае Памор'е, паколькі сам ён быў у асабістай варожасці з Прусіяй. Варожасць яго насіла менавіта асабісты характар, бо Ордэн у гэты час падтрымліваў саперніка Ягайлы, прэтэндэнта на вялікакняскі трон князя гродзенскага Вітаўта. Як бачым, ніякіх высокіх мэт выратавання літоўска-беларускай дзяржавы ад Ордэна Крэўская унія не праследавала. Яна была хутчэй патрэбна Польшчы, якая сапраўды мела адносіны з Ордэнам вельмі нацягнутыя, ад чаго яе становішча часам даходзіла да крытычнага, і тады суседзі пачыналі пагаворваць аб падзеле яе тэрыторый. Заключыўшы унію, літоўская-беларуская дзяржава давала абяцанне весці барацьбу з Ордэнам за польскія інтарэсы, што значна ўзмацняла пазіцыі Польшчы. Беларусам і літоўцам жа гэтая унія прынесла цяжкую барацьбу за дзяржаўную незалежнасць.

Дарэчы, у гэтай барацьбе Ордэн адыгрываў не апошнюю ролю. Як было ўжо сказана, у Прусіі знайшоў падтрымку Вітаўт, калі змагаўся за вялікакняжацкі трон. Аб дзейнасці гэтага геніяльнейшага чалавека, якім захапляліся і ворагі і сябры, можна гаварыць вельмі шмат, але мы возьмем толькі тое, што нас цяпер больш за ўсё цікавіць — яго палітыку ў адносінах да Ордэна. Зноў жа, яна звычайна даецца ў тым плане, што Вітаўт барацьбу з Ордэнам ставіў сваёй галоўнай задачай. Вядома, былі і ўзаемныя абвінавачванні, і скаргі Папу Рымскаму, і паходы, і войны, але асноўная лінія іх узаемаадносін была іншай.

Яшчэ будучы вялікім князем літоўскім у сярэдзіне 80-х гадоў XIV стагоддзя, Ягайла асцерагаўся той дружбы, якая ўзнікла паміж Вітаўтам і Ордэнам, таму ён і выдзеліў тады Вітаўту ва ўладанне Валынь. Вялікая адлегласць да яе і шлях, што праходзіў па праляі гаючых паміж гэтымі новымі надзеламі Вітаўта і Ордэна землямі Ягайлы, павінны былі ўскладніць усялякія зносіны паміж немцамі і Вітаўтам. Але гэтая мера не выратавала Ягайлу. Барацьба Вітаўта, актыўна падтрыманая нямецкімі рыцарамі, прымусіла Ягайлу аддаць вялікакняжацкі трон свайму вялікаму брату.

«Супрацоўніцтва» паміж Ордэнам і Вітаўтам працягвалася і ў наступныя гады. Яно было неабходным і для аднаго і для другога бакоў. Асноўнай мэтай Ордэна было дабіцца поўнага разрыву ўзаемаадносін паміж Вялікім Княствам і Каронай, саюз якіх быў вельмі для яго небяспечны. Немцы разумелі, што Вітаўт, уласна, дамагаецца таго ж — ліквідацыі залежнасці сваёй дзяржавы ад Польшчы, таму яны заўсёды імкнуліся падкрэсліць, што Вялікае Княства ў іх разуменні — самастойная дзяржава, якая вядзе самастойную палітыку. Накіроўваючы свае пасланні Вітаўту як правіцелю незалежнай дзяржавы, немцы хацелі яго схіліць да заключэння з імі міру асобна ад Польшчы, а гэта азначала б фактычны разрыў Крэўскай уніі. Вітаўт жа не спяшаўся з гэтым, выкарыстоўваючы імкненні немцаў, з аднаго боку, і страх Ягайлы перад магчымасцю заключэння сепаратнага дагавору паміж Вітаўтам і Ордэнам, з другога, у інтарэсах беларуска-літоўскай дзяржавы.

І ўсё ж дагавор быў падпісаны. Да гэтага Вітаўта прымусіла каралева Ядвіга, якая, падбухтораная польскімі панамі, патрабавала ад яго прызнання, васальнай залежнасці ад польскага трону. Для адпору польскім дамаганням быў заключаны дагавор паміж Вялікім Княствам і Ордэнам на востраве Салін 12-га кастрычніка 1398 года. Летапісы адзначаюць цікавую падзею, што адбылася на бяседзе, наладжанай пасля заключэння дагавору. Баяры Вялікага Княства і нямецкія рыцары абвясцілі Вітаўта каралём. Вядома ж, гэта абвестка не мела якіх-небудзь сур'ёзных вынікаў, але яна шмат гаворыць аб адносінах да Вітаўта ў літоўска-беларускай дзяржаве і аб адносінах да гэтай дзяржавы і яе правіцеля з боку Прускага Ордэна.

Што ж датычыць самога Салінскага дагавору, дык ён прадугледжваў шырокі план дзеянняў для дзяржаў, якія заключылі саюз. Мала таго, што ён насіў яўную антыпольскую накіраванасць, і гэта з'яўлялася абвяшчэннем незалежнасці Вялікага Княства ад Польшчы. У ім намячаліся далёка ідучыя планы і аднаго і другога боку: Вітаўт павінен быў дапамагчы Ордэну ў імкненні апошняга падпарадкаваць сабе Пскоў, а Ордэн, у сваю чаргу, аказваў дапамогу Вітаўту, які, працягваючы палітыку, што ішла ад полацкіх князёў XI-XIII стагоддзяў, хацеў далучыць да сваіх уладанняў Вялікі Ноўгарад і ўсе яго велізарныя землі.

Дзякуючы гэтаму дагавору Вітаўт атрымаў падтрымку ад Прусіі ў час паходу на татар. Плячом да пляча з беларусамі і літоўцамі ў бітве на Ворскле змагаліся нямецкія кап'еўшчыкі. Разам з дваццаццю князямі зямель Вялікага Княства ў гэтым баі з татарамі склалі галовы і дзесяць найзнатнейшых прускіх рыцараў. Паражэнне ж хрысціянскага войска было ў аднолькавай ступені цяжкім і для Вялікага Княства і для Ордэна, бо яно зноў прымусіла Вітаўта падпарадкавацца польскаму каралю. Аднак дружалюбныя адносіны паміж Вялікім Княствам і Прусіяй не перарваліся. Салінскі дагавор быў пацверджаны 22 мая 1404 года ў Рацёнжы. Але гэты дагавор быў падпісаны ўжо разам з Ягайлам, які, скарыстаўшы цяжкое становішча Вітаўта пасля Ворсклы, прымусіў яго Віленскай уніяй, заключанай у 1401 годзе, зноў пацвердзіць вернасць польскаму трону. Пазней гэтыя абставіны цяжка адбіліся на становішчы Ордэна, а пакуль Вітаўт выкарыстаў выгоды, якія яму прадастаўляў саюз з Ордэнам. У час вайны з Псковам, Ноўгарадам і Масквой у 1405—1408 гадах Вітаўт атрымаў дапамогу і ад Прускага Ордэна і ад Лівонскага, хоць, па логіцы прыхільнікаў тэорыі непрымірымай варожасці гэтых дзяржаў, для Ордэна наступаў самы падыходзячы момант для нанясення ўдару ў спіну свайму «праціўніку» і захопу яго тэрыторый. Як бачым, гэтага не адбылося.

Вось тут мы падыходзім да самага моцнага аргумента ў карысць варожасці ў адносінах паміж літоўска-беларускай дзяржавай і Прускім Ордэнам. Ім з'яўляецца Вялікая вайна 1409—1411 гадоў і Грунвальдская бітва 1410 года. Здавалася б, запярэчыць супраць гэтых фактаў цяжка, але, па-першае, на падставе вышэй сказанага, ужо можна скласці сабе ўяўленне аб сапраўдных адносінах паміж Вялікім Княствам і Ордэнам, а па-другое,.. а па-другое давайце паглядзім, пра што гавораць нам факты, якія, як вядома, рэч упартая.

Разлад паміж Вітаўтам і Ордэнам пачаўся ў 1408 годзе з-за Жмудзі. Тут трэба зрабіць невялікі экскурс у гісторыю, каб зразумець прычыну гэтага. Жмудзь (Жамайція), належала бацьку Вітаўта Кейстуту і пасля яго смерці перайшла да Вітаўта ва ўладанне. Апошні пачынае яе выкарыстоўваць у сваёй палітычнай гульні, расплачваючыся ёю за дапамогу, якая аказвалася яму з боку Ордэна. Трэба сказаць, што перадаючы Жмудзь нямецкім намеснікам, Вітаўт не лічыў яе чужой тэрыторыяй і актыўна ўмешваўся ў яе ўнутраныя справы. Насельніцтва Жмудзі знаходзілася пад яго апекай. Калі Іеранім Пражскі спрабаваў разгарнуць у Жмудзі сваю місіянерскую дзейнасць і пачаў змагацца там з язычніцтвам, Вітаўт заступіўся за жмудзінаў, якія скардзіліся яму на гэтага ганіцеля «веры бацькоў». І гэта нягледзячы на тое, што Жмудзь тады Вітаўту не належала, жмудзіны заўсёды прызнавалі Вітаўта сваім правіцелем. І толькі ён, ды і то з дапамогай зброі, сілы ў пачатку першага дзесяцігоддзя XV стагоддзя прымусіў жмудзінаў прыняць нямецкіх намеснікаў. Так што наўрад ці можна гаварыць аб захопе Жмудзі немцамі — з іх боку агрэсіўных дзеянняў у гэтым выпадку не было.

Вернемся цяпер да 1408 года. Вітаўтам толькі што заключаны мір з рускімі землямі, дзяржава ўжо дастаткова ўзмацнела пасля паражэння на Ворскле. Наступіў удалы момант для вяртання сабе Жмудзі, і Вітаўт пачынае дзейнічаць. Па яго плану ў Жмудзь пранікаюць людзі з Вялікага Княства, якія арганізоўваюць са жмудзінаў баявыя атрады. У той жа час пачынаецца ад'езд у Літву жмудскіх баяр з усімі іх людзьмі. На абуральныя пасланні нямецкіх рыцараў Вітаўт адказваў тым, што раней гаварыў аб перадачы Ордэну зямлі, але не людзей, якія на ёй жывуць, і таму сваіх падданых ён перасяляе на свае землі. Да лета 1409 года Жмудзь была фактычна ўся занята атрадамі, якія дзейнічалі па загаду Вітаўта. Рыцары былі блакіраваны ў нямногіх гарадах і паведамлялі ў Ордэн, што Вітаўт рыхтуецца да вайны. І сапраўды, у жніўні 1409 года Вітаўт першы пачаў баявыя дзеянні, асадзіўшы ў Жмудзі горад Фрыдбург. У гэтай вайне Вітаўта падтрымала Польшча, якая павяла барацьбу за ўладанне Дабржынскай зямлёй.

Усім вядомы страшны разгром Ордэна 15 ліпеня 1410 года. Але што адбылося потым? Замест таго, каб дабіць Ордэн разам з Ягайлам, Вітаўт нечакана адыходзіць са сваімі войскамі з-пад Марыенбурга і фактычна спыняе свой удзел у вайне. Чаму ён гэта зрабіў? Ды таму, што ён выканаў сваю задачу — нанёс па Ордэну ўдар, які прымусіў немцаў вярнуць яму Жмудзь. Поўнае ж знішчэнне Ордэна яму не патрэбна, бо ў гэтым выпадку ён застаўся б адзін на адзін з Польшчай, якая ўзмацнялася. Прусія была патрэбна яму ў якасці саюзніка. Дзякуючы сваёй палітыцы. Вітаўт, які сам пачаў гэтую вайну і сам яе фактычна закончыў, стаў адзіным пераможцам у ёй, вярнуўшы сабе Жмудзь, не даўшы загінуць Ордэну і не дазволіўшы ўзмацніцца Польшчы. Звёў на нішто ўсё яе перамогі ў бітвах гэтай вайны.

Такім чынам, мы пераканаліся, што адносіны паміж Вялікім Княствам і Ордэнам не насілі таго характару, які нам удоўблівалі ў галовы так доўга. Літоўска-беларуская дзяржава не выступала ў ролі ахвяры, якая мела патрэбу ў абароне. Яна заўсёды дзейнічала ў сваіх інтарэсах, арыентуючыся на астатнія еўрапейскія дзяржавы і імкнучыся ўвайсці ў іх сям'ю паўнапраўным членам. Пры Вітаўту Вялікім гэтая мэта была амаль дасягнута, і дапамогу ў яе дасягненні аказваў яму Прускі Ордэн, які нямала зрабіў для таго, каб на карце Еўропы паявілася яшчэ адно каралеўства. І не яго віна, што каласальную дзейнасць, якую правёў адзін з найвялікшых людзей свайго часу — Вітаўт, так і не ўвянчала каралеўская карона. Гэта зрабіла доўгім шлях беларускага народа да незалежнасці, але з таго часу засталося ўсведамленне народам сваёй гісторыі часткай гісторыі Еўропы, а свайго шляху развіцця — шляхам развіцця ўсіх еўрапейскіх народаў, з якога воляй лёсу наш народ быў саштурхнуты і на які яму зараз неабходна вярнуцца.

**Яўген КРАСУЛІН,**
**сябра згуртавання беларускай моладзі ў Маскве «Пагоня».**

## ЯЎГЕН ЦУМАРАЎ:

## «АДРАДЖЭННЕ ПОЙДЗЕ ПРАЗ ФАРМАВАННЕ НОВАГА ПАКАЛЕННЯ»

# КАМУ ПАТРЭБЕН НЯМЕЦКАМОЎНЫ БЕЛАРУС

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

даюцца галасы, што адмаўляюць беларускай мове ў праве на існаванне, а ўвядзенне яе ў школах абвяшчаюць ледзь не генацыдам, а са старонак нашай прэсы і з іншых сродкаў масавай інфармацыі.

І зусім на мяне павеяла сіверам, калі аднойчы ў ранішняй праграме «Радыёфакт» я пачуў довады сацыёлага з Беларускага дзяржаўнага універсітэта Лідзіі Новікавай. На падставе сацыялагічных даследаванняў атрымлівалася, што больш за 70 працэнтаў апытаных беларусаў лічаць закон аб мовах недасканалым і патрабуюць зрабіць дзяржаўнай, нароўні з беларускай, і рускую мову.

З цяжкімі думкамі, што роіліся ад усёй гэтай інфармацыі ў маёй галаве, прыйшоў я да Яўгена ЦУМАРАВА, сакратара Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны.

— Яўген Аляксандравіч, «Радыёфакт» вывады нашых універсітэцкіх сацыёлагаў каменціраваць адмовіўся. Як пракаменціруеце іх вы?

— Відаць, трэба зыходзіць з таго, што запісана ў нашым законе аб рэферэндуме. У ім ёсць даволі дэмакратычнае палажэнне: не выносіць ні на якія формы грамадскага апытання такія пытанні, што тычацца маральнага і духоўнага свету чалавека. Нельга ставіць пытанні: ці патрэбна вам маці? Ці патрэбна вам Радзіма? Ці будзеце вы абараняць сваю Радзіму? Ці будзеце выкарыстоўваць дзяржаўную мову на дяржаўнай службе?

Калі гаворка ідзе пра тое, каб чытаць кніжкі, лежачы ў сябе дома на канапе. то тут, безумоўна, не можа быць ніякага рэгулявання моўных працэсаў. Іншая справа — дзяржаўная служба. Той жа універсітэт рыхтуе, скажам, юрыстаў. А юрыст (адвакат, натарыус) павінен выкарыстоўваць дзяржаўную мову не толькі ў справаводстве, але і ў практычных зносінах з людзьмі. Тут павінна быць поўная яснасць.

Дарэчы, нашым сацыёлагам, калі яны хочуць быць аб'ектыўнымі, трэба браць пад увагу многія факты. Няблага было б паразважаць, напрыклад, над такой статыстыкай. Чаму ў рэспубліцы на 100 тысяч беларусаў толькі 6 дактароў навук, а на тыя ж 100 тысяч рускіх аж 33. Кандыдатаў навук адпаведна 93 у беларусаў і 398 у рускіх на Беларусі. Такія ж, прыкладна, прапорцыі і колькасці студэнтаў і людзей з вышэйшай адукацыяй. Мяне ўразіла, што нават у вёсцы — гэтай калысцы беларускасці, сярод спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй яшчэ большая прапорцыя рускіх, чым у горадзе. Кіраўнікі гаспадарак, галоўныя энергетыкі, галоўныя інжынеры — рускія.

Выходзіць, што «Белорусская нива», якая выдаецца для вясковага чытача, адрасавана ў першую чаргу чытачу-начальніку. А не асноўнай частцы насельніцтва вёскі, якое з'яўляецца пераважна беларускамоўным. Прыкладна такая ж сітуацыя з вышэйшай адукацыяй і ў іншых сферах нашага жыцця.

Вяртаючыся да памянёнага апытання, праведзенага сацыёлагамі БДУ, хацеў бы сказаць, што важна вельмі канкрэтна і ўзважана фармуляваць пытанне. Нельга прымушаць чалавека адказваць на пытанне, якое ставіць яго перад дылемай! Адказ проста можа быць амаральным.

Таму, думаю, «Радыёфакт» паспешліва падышоў да агалашэння такіх вось пытанняў.

— Але ж хочам мы таго ці не, будзем гаварыць публічна ці прамаўчым для карысці справы, сёння такі стан нашага грамадства. Так яно ставіцца да дзяржаўнай мовы. Ці нам ад гэтага лягчэй?..

— Безумоўна, для нас такая інфармацыя цікавая — мы бачым, які грамадскі попыт на беларускую мову. Але возьмем, напрыклад, Ізраіль. Дзяржаўнай там стала мова, якая была незразумелай для большасці яўрэяў. А цяпер яна расцвіла. Гэта мова была проста забыта.

Тое ж і з беларусамі. Заўважце, вельмі мала ёсць беларусаў, якія кажуць: «Мне не трэба беларуская мова». Большасць гаворыць: «Не прымушайце мяне заўтра ўжо на ёй гаварыць, выконваць службовыя абавязкі». Давайце глянем на справу і з такога боку. Калі спытаць інжынера-ядзершчыка, які на 99 працэнтаў карыстаецца літаратурай не на беларускай мове, а на рускай, англійскай, якая мова яму больш патрэбна, то вядома ж, ён адказа: руская. Таму што ён без яе жыць не можа як спецыяліст.

Але ж ці ўсё зрабіла наша дзяржава, каб выходзілі на беларускай мове галіновыя часопісы, распрацоўвалася тэрміналогія? Тая ж самая «Белорусская нива» магла б быць выдатным распрацоўшчыкам сельскагаспадарчай тэрміналогіі. Або медыцынскія выданні.

— Вядома ж, маглі б... Але наша прэса выбрала найлягчэйшы шлях: назва выдання нібы беларуская, дзве-тры заметкі — на беларускай мове, астатняе ўсё па-руску. Апалагеты такой «трасянкі» і хрысцяцца, і божацца, што яны абедзвюма рукамі за адраджэнне. але так «дбаюць» пра народ, што не могуць для яго пісаць на роднай мове, прапагандаваць яе, — «не поймут». Гэта вельмі выйгрышны козыр — спасылацца на народ і нічога не рабіць для яго, у даным выпадку, духоўнага абуджэння. Пры такой палітыцы моўны статус-кво ў Беларусі захаваецца датуль, пакуль не застанецца ніводнага жадаючага чытаць па-беларуску. Ужо сёння мы маем толькі кожнае чацвёртае выданне з 565 газет і часопісаў — беларускамоўнае. Баюся, што заўтра можа быць горш — попыт на беларускую мову знізіцца. Калі я не маю рацыі, развейце мае сумненні.

— Наша надзея — новае пакаленне, бо сярэдняе, той, хто хацеў паслужыць справе адраджэння, ужо заявіла аб сабе. А новае, дзеці, якія пайшлі ў пачатковыя школы, беларускія школы, калі яны стануць спецыялістамі, запатрабуе больш інфармацыі на дзяржаўнай мове. Ужо сёння мы не маем праблем з беларускімі класамі. Цяпер ёсць праблема, як забяспечыць велізарную колькасць беларускіх пачатковых класаў і выкладчыкамі, і сродкамі навучання. і духоўным асяроддзем — нацыянальным космасам.

Калі беларус сам не гаворыць па-беларуску, то жыццё яго так склалася, але ён ахвотна аддае сваё дзіця ў беларускую школу. Тым часам ён ужо прагаласаваў за тое, каб у нас беларуская мова адраджалася. І таму ніякія апытанні сацыялагічных службаў не могуць перакрэсліць таго факта, што ў нас ёсць гарады, такія, як Мядзель, Ашмяны, дзе ўжо два гады няма ніводнага рускамоўнага першага класа. І ніхто не скардзіцца, не піша заяў: дайце мне рускую школу. Або глянем на Мінск. Тры гады назад у горадзе на больш чым 200 школ толькі ў 34 былі пачатковыя беларускія класы, а з новага навучальнага года дадаецца яшчэ 45. Вельмі значны рост.

Адраджэнне менавіта пойдзе праз фармаванне новага пакалення. А наша задача — ствараць умовы для яго гарманічнага і паўнацэннага развіцця.

— Калі мы ўжо загаварылі пра стварэнне ўмоў для развіцця маладога пакалення, якое стане носьбітам беларускасці і ўзніме нашу нацыянальную свядомасць, то ці задавальняе нас сёння канцэпцыя адукацыі?

— Канцэпцыя гэта, закладзеная ў законе аб адукацыі, правільная. Але правільная на сённяшні дзень. У ёй прадугледжаны такі ланцужок: дзяржава стварае пэўныя структуры, і яны працуюць на ўмацаванне суверэнітэту, адраджэнне нацыянальнай культуры, развіццё і пашырэнне мовы. А са стварэннем рынкавых адносін. са з'яўленнем у Беларусі слоя заможных людзей — селяніна, інжынера, адваката, урача, настаўніка, журналіста — гэтая канцэпцыя не зможа функцыяніраваць. Трэба сфарміраваць асобу, грамадзяніна так, каб ён усвядоміў: ён стаў заможным таму, што ёсць беларуская дзяржава. Ён тады аб'ектыўна будзе ўсяляк спрыяць умацаванню нацыянальна-дзяржаўнага суверэнітэту і пашырэнню беларускай мовы. Тады ўзнікне патрэба ў карэкцыі закона аб мовах і закона аб адукацыі.

Не дзяржава, якая стварае дзяржаўныя структуры для адраджэння мовы, а дзяржава, якая стварае ўмовы для духоўнага і матэрыяльнага развіцця заможнага класа, часткі насельніцтва, якое прыйдзе да высновы аб неабходнасці адраджэння мовы. Не сілавым метадам, не адміністрацыйным. Тым самым мова будзе адраджацца не праз дзяржаўныя структуры, не прымусам, а праз фармаванне грамадскай супольнасці, якая будзе разумець. што без гэтага проста жыць немагчыма. Як гэта сёння разумее супольнасць літоўская ці польская.

Нам пільна трэба ўнесці змяненні ў закон аб мовах у сувязі з увядзеннем закона аб адукацыі. У шостым артыкуле закона аб адукацыі запісана, што беларуская мова — гэта асноўная мова навучання і выхавання ва ўсіх адукацыйных установах Беларусі. А ў законе аб мовах бацькам даецца нейкае размазанае права выбару. Выбару чаго? Далей, аб статусе рускай мовы як мовы міжнацыянальных зносін. А чаму гэтай мовай не можа быць англійская? А болей за ўсё ёй можа служыць беларуская. У законе аб мовах не прадугледжана ўжыванне беларускай мовы ў такіх структурах, якіх не было тады, калі прымаўся закон: мытня, войска, памежная варта, марскі і паветраны флот.

— Вось вы. Яўген Аляксандравіч, згадалі пра фарміраванне свядомай грамадскай супольнасці, якая будзе разумець, што ёй патрэбна беларуская мова. Заманлівая гэта перспектыва. але калі тое будзе. Тыя ж палякі на Беларусі, як толькі з'явілася магчымасць, адразу ж заявілі аб сабе. Ды яшчэ як смела! А беларусы — нібы яны госці ў сваім доме...

— Для таго, каб з годнасцю сказаць: «Я — беларус!», трэба трошкі даведацца пра мінулае Беларусі, трэба адчуць водар і прыгажосць беларускага слова. Але для гэтага трэба прайсці пэўны этап. І тут вялікая роля нашых сродкаў масавай інфармацыі — яны павінны служыць ідэі нацыянальнага суверэнітэту.

Вось многія не бачаць на гэтым накірунку перспектывы. Але давайце падыдзем крытычна: ці дала што-небудзь еўрапейскай культуры, сусветнай культуры так званая беларуская культура на аснове рускай мовы? Дзе ў нас паэты, хоць бы сярэдняй рукі? Вялікія пісьменнікі? Інстынкт самазахавання падказвае: або Беларусь застанецца духоўным асяродкам, або, калі зрачэцца сваёй мовы, — проста растворыцца.

Мы павінны зрабіць усё, каб як мага больш людзей пачулі голас народа з нетраў гісторыі: будзь беларусам, застанься ім, і тым самым ты захаваеш самабытнасць, якая так патрэбна сусветнай супольнасці. Бо нікому не патрэбны беларус нямецкамоўны ці рускамоўны. Ён не дасць нічога ні нямецкай, ні рускай культуры, тым больш не прынясе нічога карыснага свайму народу.

— Яўген Аляксандравіч, нядаўна адбылася Рэспубліканская канферэнцыя «Беларуская мова і нацыянальна-дзяржаўны суверэнітэт Рэспублікі Беларусь». Выступленні на ёй былі заклапочаныя і трывожныя, а прынятая пастанова. якая была апублікавана ў «Голасе Радзімы», —наколькі канкрэтна-канструктыўная, настолькі і катэгарычна-рэзкая. Пракаменціруйце, калі ласка, што за гэтым стаіць?

— Дзяржава наша набывае выгляд незалежнай. Пакуль што — выгляд, але ж раней і гэтага выгляду не было. Два гады назад быў уведзены закон аб мовах, а праз год мы павінны перайсці да завяршэння ўвядзення беларускай мовы ў справаводстве і іншых сферах дзяржаўнага жыцця. Мы прааналізавалі, як жа ідзе працэс беларусізацыі. Сабралі інфармацыю з міністэрстваў, мясцовых Саветаў. Члены камісіі аб'ехалі 50 са 117 раёнаў. Наведалі не толькі ўстановы адукацыі і культуры, але і вакзалы, дарогі і г. д. І пераканаліся, што няма такога механізма, які б спрыяў ажыццяўленню закона аб мовах. Мы вырашылі звярнуць увагу і кіраўнічых структур, і грамадскасці на той факт, што закон не выконваецца. І паставілі задачу стварыць Інспекцыю па нагляду за выкананнем дзяржаўнай і іншых моў у рэспубліцы. Па нашаму меркаванню, інспекцыя будзе выконваць дзве задачы: каардынаваць усю гэтую работу, вырашаць практычныя пытанні. спрыяць выкананню дзяржаўнай праграмы і сачыць за эталонам выкарыстання беларускай мовы, лексічным і граматычным фонам. Каб не бегала па Мінску «Маршрутная таксі», а на дарогах каб не трапляліся надпісы на рускай і беларускай мовах: «Узда—Узда».

Інспекцыя павінна быць невялікай колькасна, але дзеяздольнай, дзякуючы зацікаўленым людзям. І незалежная ад мясцовых выканкомаў.

Канферэнцыя прыняла спецыяльны пункт па мове ў канфесіях. Не ведаю, спантанная гэта акцыя ці спланаваная, але Беларусь наваднілі ўсялякія прапаведнікі. Усё было б нармальна, каб іх дзейнасць не вялася на шкоду дзяржаве. І справа тут не толькі ў той мове, якая гучыць у касцёлах і цэрквах, а і ў прапагандзе каштоўнасцей іншай дзяржавы, чужой нам сімволікі. Духоўная культура — гэта частка культуры народа. І калі ў царкве, касцёле, малітоўным доме яна будзе служыць інтарэсам іншых дзяржаў, то гэта ўжо ненармальна.

— Як вы ставіцеся да прапановы абвясціць 1993 год годам беларускай мовы? Яна была выказана на старонках «ЛІМа».

— Гэта прапанова прагучала і на канферэнцыі. Каб яна была рэалізавана. можа, гэта дало б магчымасць трошкі нешта зрушыць на афіцыйным узроўні... Але гэта мне вельмі нагадвае месячнік бяспекі руху...

— Месячнік праходзіць, а ахвяр на дарогах не менее?

— Так. Калі гутарка ішла пра год Скарыны, ці Багдановіча, то тут ясна: гэта дае магчымасць пашырыць ва ўсім свеце веды пра Скарыну і Багдановіча. Але што такое год мовы? Да гэтага яшчэ ніхто ў свеце не дадумаўся. Трэба працаваць кожны дзень і кожны год, каб беларуская мова загучала ў кожным нашым доме.

Я падзякаваў майму субяседніку за грунтоўныя адказы на тыя пытанні, што хвалююць і мяне, і майго чытача, і з надзеяй выйшаў з кабінета. дзе гучала беларуская мова. Па калідорах былога будынка ЦК, дзе цяпер месціцца Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, сноўдалі дэпутаты і розныя чыноўнікі. Упэўнена гучала руская мова...

**Вацлаў МАЦКЕВІЧ.**

## ТВОРЧЫ САКРЭТ ПАЎЛА МАЛЧАНАВА

# ДАРОГА ДА ВЯРШЫНЬ

Прадбачанне Паўла Малчанава спраўдзілася. Прайшло шмат гадоў, і ў наш час ужо вывучаны кожны кадр названых фільмаў.

— Я заўсёды,—сказаў Павел Малчанаў,—лічыў Аляксандра Даўжэнку адным са сваіх настаўнікаў у мастацтве.

Наш фільм «Палескія рабінзоны» быў выпушчаны на ўсесаюзны экран і прайшоў з поспехам у гледачоў і крытыкі. Асабліва горача ўхвалялі карціну за маляўніча адзнятую ў ёй прыроду. Дапамагла «Зямля». Калі б не было гэтага фільма, мы, мабыць, не змаглі б дасягнуць такіх вынікаў.

На ўрачыстым сходзе, прысвечаным дзесяцігоддзю беларускага кіно, старшыня Савета народных камісараў БССР Мікалай Галадзед сказаў: «Палескія рабінзоны»—гэта першы сапраўды беларускі мастацкі фільм для нашай моладзі».

Летам 1936 года Янка Купала разам са сваёй жонкай Уладзіславай Францаўнай і паэтам Петрусём Броўкам наведалі Бабруйск, дзе гастраляваў Другі беларускі дзяржаўны тэатр. Паважаныя госці былі запрошаны на прагляд «Паўлінкі» і «Прымакоў» Янкі Купалы, «Пінскай шляхты» Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча ў пастаноўцы Паўла Малчанава. А назаўтра гасцям быў паказаны фільм «Палескія рабінзоны». Калі ў глядзельнай зале запалілася святло, Іван Дамінікавіч абняў Паўла Сцяпанавіча, пацалаваў яго і выказаў сардэчныя словы ўхвалы.

..:У 1935 годзе Паўла Малчанава запрасілі ў Мінскі тэатр рабочай моладзі на пастаноўку. Другі рэжысёр у гэты час ставіў спектакль па п'есе Мікалая Пагодзіна «Арыстакраты». У тэатры не знайшлося акцёра на галоўную ролю Косці-капітана. «А што, калі сыграць мне»,— нясмела прапанаваў Малчанаў. Ніхто яшчэ не ведаў тут яго акцёрскіх здольнасцей, але іншага выйсця не было, і рашылі рэпеціраваць. «Я з такім шаленствам, з такім энтузіязмам ухапіўся за працу,— гаварыў акцёр,— што не помню, каб так унутрана гарэў калі-небудзь потым. Прарвалася маладая энергія, быўшая ў застоі, кансервацыі ў час маёй доўгай занятасці ў кіно».

Поспех быў незвычайны. «Арыстакраты» іграліся пры суцэльных аншлагах. Пра Малчанава загаварылі ва ўсіх кутках Беларусі.

У «ТРАМЕ» наважыліся замацаваць Паўла Малчанава ў штаце, але родны яму Другі беларускі дзяржаўны тэатр настойліва прасіў вярнуцца. У лютым 1936 года ён зноў апынуўся ў сваім родным тэатры. Першым выдатным вынікам з'явілася роля ўрадніка Шышлы ў п'есе Якуба Коласа «Вайна-вайне!». Вобраз быў створаны ў востракамедыйным плане і часта выклікаў ажыўленасць у зале і смех. Пра гэты вобраз Малчанаў пісаў:

«Унесеныя мною ў ролю дапаўненні: ігра на гітары, спевы — рабілі эпізадычную фігуру Шышлы больш каларытнай, прыкметнай. У гэтым часта і заключаецца работа, а дакладней — задача акцёра: расквеціць ролю дэталямі, зрабіць яе запамінальнай.

Колас заўважыў наконт майго выканання ролі Шышлы, што гэта значна ўзбагаціла вобраз, па сутнасці ўзбагаціла аўтарскі матэрыял».

Неяк ізноў сустрэўшыся з Малчанавым, Якуб Колас сказаў:

— Я ўсё думаю, як гэта вам удалося, так адпаведна, так лоўка сыграць Шышлу? Калі ў нас існавалі ўраднікі, вы ж былі яшчэ непаўналеткам...

— Так, так, шаноўны Канстанцін Міхайлавіч, я сапраўды быў малы. Але справа ў тым, што адзін мой сваяк быў ураднікам. Я яго часта бачыў. А цяпер вось, пераняў...

—Вунь як! — толькі і сказаў Колас.

Маладыя акцёры пытаюць, у чым сакрэт яго майстэрства і такога бліскучага поспеху. Сакрэт вельмі просты: Малчанаў — мастак вялікіх прыродных здольнасцей, памножаных на тытанічную працу.

Выключнай падзеяй, якая здзівіла шэкспіразнаўцаў, вяхою на творчым шляху артыста было стварэнне вобраза Гамлета — самай складанай і цяжкай ролі ў сусветным класічным рэпертуары. Павел Сцяпанавіч прызнаецца, што яго вельмі ўсхваляваў таленавіты пераклад «Гамлета» на беларускую мову, зроблены высокаадукаваным пісьменнікам Юркам Гаўруком. Ніводзін з рускіх перакладаў не можа параўнацца з гэтым прыбліжаным да арыгіналу, натхнёным перакладам. Здаецца нават, што гэта сам Вільям Шэкспір вадзіў пяром на нашай мове, і ён, Малчанаў, рашыў трымаць экзамен на артыстычную сталасць. Пастаноўку здзейсніў славуты маскоўскі рэжысёр Валерый Бебутаў, які шмат гадоў спецыялізаваўся галоўным чынам на сцэнічным вырашэнні шэкспіраўскіх драматургічных твораў, а яго родная сястра Алена Міхайлаўна на мастацкім дэкарацыйным афармленні.

Сусветна вядомы савецкі знаўца Шэкспіра прафесар Міхаіл Марозаў адклаў усе свае справы і прыехаў у Віцебск з мэтай пабачыць Паўла Малчанава ў ролі Гамлета. Марозава ўсадзілі ў дырэктарскай ложы. Валерый Бебутаў сеў побач. Адкрылася заслона. Сцэна патанала ў разнаквеццi фарбаў, была асветлена безліччу электраагнёў. Прамені скрыжоўваліся, утвараючы святло і цені. Здавалася, сотні «сонечных зайчыкаў» бегаюць па сценах Эльсінорскага замка.

Марозаў успыхнуў:

— Што вы ўчынілі? Фарбы заціснуць Гамлета, гэта жахліва!

Бебутаў іранічна ўсміхаецца:

— У прынцыпе так, толькі не гэтага...

Выйшаў на сцэну Гамлет. Марозаў спалохана ўвагнуў галаву ў плечы. Адгучаў першы маналог. Марозаў узрадавана выпраставаў галаву. Перад ім быў магутны акцёр, тэмперамент якога ўзняўся над усімі фарбамі, і яны не толькі не заміналі, а наадварот падкрэслівалі бязмежныя магчымасці натхнёнага выканаўцы.

У газеце «Віцебскі рабочы» № 205 за 16 кастрычніка 1946 года Міхаіл Марозаў напіша:

«Павел Сцяпанавіч Малчанаў выдатна іграе Гамлета. Перад намі чалавек неспакойнай усхваляванай думкі. Чалавек адначасова і гнеўны, і любячы. Які ласкавы ён з Гарацыо, які пяшчотны ён з Афеліяй, і як ненавідзіць ён свайго ворага Клаўдзія, з якой пагардай ставіцца ён да хітрага шэльмы старога Палонія. Малчанаў валодае багацейшай акцёрскай палітрай...

Гэты спектакль з'яўляецца не толькі творчай перамогай здольнага калектыву. Ён гаворыць аб тым, як глыбока і ўсебакова ўмее савецкі тэатр раскрываць найвялікшыя творы сусветнай драматургіі.. Тэатр імя Якуба Коласа стварае ўпершыню ў гісторыі беларускага тэатра спектакль «Гамлет». І зараз можна смела сказаць, што Беларускі тэатр унёс ужо каштоўнейшы ўклад у агульную работу савецкага тэатра над Шэкспірам. Спектакль «Гамлет» з'яўляецца святам беларускага тэатральнага мастацтва».

...Так, гэта было свята. Многія прызнаныя акцёры з Масквы, Ленінграда, Кіева і іншых гарадоў прыязджалі ў Віцебск альбо ў Мінск, каб убачыць Малчанава ў «Гамлеце». Ад'язджалі яны вельмі ўражаныя. Прыязджалі паглядзець спектакль супрацоўнікі Брытанскага пасольства ў СССР і запэўнівалі, што такога бліскучага Гамлета яшчэ не бачылі ў сябе, на радзіме вялікага Шэкспіра.

У красавіку 1947 года Паўла Малчанава зусім нечакана запрасілі ў Маскву на ўдзел у традыцыйным Шэкспіраўскім канцэрце. За старшыню вечара быў карыфей рускай сцэны Юрый Юр'еў. Апошні раз у жыцці выступаў ён тут з паказам некаторых урыўкаў са сваіх шэкспіраўскіх роляў.

На Беларускім вакзале ў Маскве Паўла Малчанава сустракалі прадстаўнікі з Камітэта мастацтваў і... вярнуліся без яго. Начальству далажылі: «Не прыехаў». А на справе адбылася недарэчнасць. Снуючыся па пероне яны неаднаразова абміналі яго. Усяго паўтара года назад скончылася жудасная спусташальная вайна. Малчанаў быў вельмі бедна апрануты, і ў ім проста не прызналі чаканага акцёра. Сам жа ён аніяк не спадзяваўся, што нехта будзе яго сустракаць.



Апошняя роля П. МАЛЧАНАВА — Саўка ў фільме «Збянтэжаны Саўка».

За якую гадзіну да пачатку пачалі збірацца ўдзельнікі унікальнага вечара. Адзін у аднаго пыталіся: «Хто гэта там стаіўся на водшыбе ў апошнім радзе?» Спыталіся ў Юр'ева. Не ведаў і ён. Але даручыў нейкай пажылой актрысе, члену мастацкага савета Камітэту мастацтваў падысці і далікатна спытацца. Але тая не цырымонілася. Спытала шумна, на ўсю залу, седзячы за сталом прэзідыума:

— Скажыце нам, адкуль вы і хто?

Чалавек узняўся з месца:

— Я з Віцебска, Гамлет, Малчанаў...

— З Ві-і-іцебска?— здзівілася жанчына.

— Нічога дзіўнага! — абарваў яе Юр'еў і звярнуўся да Малчанава:

— Здзіўляе ваша сціпласць, а калі так, то з вас і пачнём. Падыдзіце, калі ласка, сюды і скажыце, што вы нам прапануеце.

Павел Сцяпанавіч энергічна ступіў на падмосткі, гучна вымавіў:

— Маналогі Гамлета...

Юр'еў ажывіўся, вытрымаў працяглую паўзу, спытаў ласкава:

— Адзін, два, якія?

— Усе! — адказаў Малчанаў.

У зале пачуўся з'едлівы смяшок. У прэзідыуме таксама. Юр'еў не смяяўся:

— А вы ведаеце, што Шэкспір сам быў акцёр і разумеў, адчуваў усю неймаверную складанасць і цяжкасць гамлетаўскіх маналогаў і размеркаваў іх у п'есе праз пэўныя інтэрвалы, каб выканаўца меў даволі часу назапашваць сілы на іх аднаўленне?!

Малчанаў:

— Гэта несумненна так. Але трэба дасканала валодаць «пераліўкай крыві». Мне асабіста вядомы гэты прыём з той пары, калі я вучыўся ў беларускай драматычнай студыі тут, у Маскве. Пераняў яго ад двух вялікіх артыстаў рускай сцэны Паўла Арленева і Міхаіла Чэхава. Абодва валодалі прыёмам лёгка і нязмушана.

У зале нібыта здранцвелі: «Вось табе і віцябчанін... Правінцыял»..:

Малчанаў жа тлумачыў далей:

**Алесь СЛЕСАРЭНКА.**

Працяг. Пачатак у №№ 26, 27.

# СВЯТА СЛАВЯНСТВА

З 18 па 23 ліпеня ў Віцебску пройдзе міжнародны музычны фестываль «Славянскі кірмаш». Удзел у ім прымуць каля тысячы выканаўцаў з самых розных краін свету. Будзе багата і гасцей.

У 70-х і пачатку 80-х гадоў у Зялёнай Гуры ў Польшчы праходзілі фестывалі савецкай песні. Палякі рабілі важную справу, прапагандуючы песні народаў Савецкага Саюза. У 1988 годзе аналагічная конкурсная праграма была праведзена ў старажытным Віцебску. Адбыліся два фестывалі польскай песні ў горадзе над Дзвіной. Сёлета вырашана адрадзіць фестываль на новай аснове. У гэтым нам вельмі дапамаглі палякі. У мінулым годзе восенню яны правялі замест «Зялёнай Гуры» фестываль «Беластоцкія мальвы». Там гучалі польскія, беларускія, рускія, украінскія песні, удзельнічалі таксама госці з Літвы. Цяпер мы праводзім у сябе тыя ж «Беластоцкія мальвы», толькі значна шырэй. А назвалі праграму «Славянскі кірмаш». Удзел у ім прымуць выканаўцы з сённяшніх незалежных славянскіх рэспублік СНД, Польшчы, а таксама прадстаўнікі славянскай дыяспары практычна з усяго свету — з Канады, Германіі, ЗША, Францыі, многіх іншых краін.

Сярод заснавальнікаў кірмашу — кіеўская канцэртна-творчая арганізацыя «Рок-акадэмія», маскоўская фірма «Ірыда», эстрадна-канцэртны аркестр Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга, а таксама Міністэрства культуры Расіі, апарат прэзідэнта Украіны. Падтрымку аказвае і беларускае Міністэрства культуры. Старшынёй аргкамітэта з'яўляецца Наталля Машэрава. Беларускае таварыства дапамогі ахвярам Чарнобыля, якое яна ўзначальвае, таксама актыўна ўдзельнічае ў арганізацыі правядзення фестывалю. Дапамагаюць і палякі: зараз у нашай рэспубліцы знаходзіцца старшыня Саюза кампазітараў гэтай краіны пан Майдровіч.

«Мэту фестывалю можна выразіць коратка: у наш час палітычных канфрантацый культура, у тым ліку і музыка, павінна збліжаць, аб'ядноўваць людзей. І не толькі славянскіх народаў — да нас могуць прыехаць госці з любой краіны, мы ўсім будзем рады», — сказаў намеснік старшыні арганізацыйнага камітэта, кампазітар Ігар Лучанок.

У конкурсных праграмах «Славянскага кірмашу» выступяць пераможцы і лаўрэаты розных песенных конкурсаў, сярод іх будуць і «зоркі» эстрады — С. Ратару, В. Лявонцьеў, А. Ціхановіч і Я. Паплаўская, «Песняры», «Верасы». У рамках фестывалю выступяць і маладыя выканаўцы, ад кожнай краіны тут будуць прымаць удзел па восем чалавек. Вядома ж, мы станем сведкамі з'яўлення новых імёнаў, якія ў далейшым, несумненна, будуць вызначаць напрамкі эстраднай музыкі. У межах фестывалю пройдуць таксама фальклорныя святы, дні нацыянальных культур.

А галоўнае, да чаго мы імкнёмся, выйсці на шырокую дарогу, зрабіць фестываль традыцыйным святам славянства на беларускай зямлі.

## БУДУЦЬ І Ў НАС СВАЕ МАГІСТРЫ

На пасяджэнні Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі прынята пастанова аб сістэме атэстацыі навуковых і навукова-педагагічных кадраў рэспублікі. Савету Міністраў даручана распрацаваць і прадставіць на разгляд парламента праект Закона «Аб навуковых ступенях і навукова-педагагічных званнях».

Прапанавана заканадаўча замацаваць толькі дзве вучоныя ступені — магістра і доктара, а таксама два навукова-педагагічныя званні — дацэнта і прафесара. Мяркуецца, што прысуджаць іх будуць вучоныя саветы устаноў, пералік якіх і вызначыць закон.

Вячэрнія вуліцы маляўнічага сяла Слабодка, што на Браслаўшчыне, напоўніліся гукамі гармоніка і песнямі. Дзяўчаты і хлопцы ў нацыянальных касцюмах хадзілі па дварах, запрашаючы людзей на Купалле. А гаспадароў прасілі не скупіцца на пачастункі:

«Хазяечка, не ляжы,
На вуліцу выхадзі.
На вуліцу выхадзі,
Купальнічку падары:
А ці сала кусочак,
Ці яічак пяточак,
Ці піражка скарынку,
Ці цыбулі пярынку».

І пацягнуліся людзі на круты бераг возера. Загарэўся купальскі касцёр, закружыліся вакол яго карагоды і ўзнова званчэй загучалі песні:

«Ой, рана на Івана!
На Івана сонца йграла,
Ой, рана на Івана!»

Усю ноч да ўзыходу сонца працягвалася свята, якое арганізаваў на Браслаўскай зямлі Беларускі фонд культуры.

НА ЗДЫМКУ: на свяце «Купалле».



ЗАМАЛЁЎКА ЛЕТА

## БЕРАГУЛЬКІ—БЕРАЖАНКІ

Мы ішлі берагам Нёмана па лесе. Ён сцяною стаяў маўклівы, нібы драмаў. Сонца моцна прысела на дрэвах; панавала спакойная гаючая цішыня. Лісты на дрэвах звісалі ад гарачыні. Нёман быў лагодны, таямніча-задумлівы і сіні-сіні, здавалася, чакаў ласкі начной прахалоды. У затоцы на аеры заўзята стракаталі конікі і павялічвалі пах аеру. За ракою буялі мурожныя лугавыя травы, чакалі касцоў.

«Чароўны, маляўнічы мой край», — падумаў я.

Там, дзе рэчышча павярнула на захад, мы выбралі атвой і прыселі. Бачу, ля нас у беразе мноства норак.

— Хто нарабіў тых норак? — заўважыў іх і ўнук.

— Паназірай, хто будзе іх наведваць, — раю яму.

— Дык гэта ж ластаўкі, — праз момант кажа ён.

— Гэта толькі родзічы ластавак. Бачыш, яны шэрыя, хаця і падобныя. Ластаўкі будуюць сабе жытло пад страхою, над акном, ці ў шчыліне хаты. А берагулькі, ці інакш іх называюць беражанкі, жывуць калоніямі ў норах, у берагах рэк, як першабытныя людзі. Іх хаты зроблены вельмі па-майстэрску. Яна, як і ў людзей, пачынаецца з сенцаў, праз якія ўваходзіш у галоўны пакой, дзе яны спяць і гадуюць сваіх дзетак.

Праз некалькі хвілін берагулькі, як па сігналу, адна за адною пачалі шпарка вылятаць з норак і віртуозна лятаць над плынню: то ўздымаліся ўвысь, то пікіравалі да вады, то імчаліся так нізютка над вадою, што кранал і яе крыламі.

— Чаго яны разляталіся? — пытае мой вудар.

— Відаць, нам доўга не давядзецца рыбачыць, — кажу, яму.

— Чаму? Мы ж нічога не злавілі.

— Калі берагулькі моцна разляталіся, ведай, збіраецца на дождж.

— Адкуль яны ведаюць, седзячы ў норах?

— Перад дажджом вельмі шмат рознае машкары лётае над вадою. На яе і палююць гэтыя птушкі, каб не быць галоднымі, калі задажджыцца...

— Як цікава... — нібы сабе прамовіў унук.

Далёка за лесам нясмела пабурчэў гром і кудысьці пабег. Мы, спяшаючыся, пачалі збіраць вуды.

Яўген КРАМКО.

СПОРТ

## ПУЦЕУКА У БАРСЕЛОНУ

На адкрытым чэмпіянаце СНД па лёгкай атлетыцы, які праходзіў у Маскве, бліскучы вынік у кіданні кап'я паказала мінчанка Наталля Шыкаленка. У першай жа спробе яе снарад прызямліўся на адзнацы 70 метраў 36 сантыметраў. Таленавітая спартсменка ўключана ў зборную СНД на Алімпійскія гульні ў Барселоне.

## «СЕРАБРО» СВЯТЛАНЫ

Некалькі гадоў займаецца з юнымі шашыстамі Прывольненскай сярэдняй школы Мінскага раёна неаднаразовы чэмпіён рэспублікі майстар спорту Барыс Агашын. Выхаванцы гэтай школы выходзілі пераможцамі і прызёрамі многіх турніраў.

І вось дэбют у чэмпіянаце свету сярод юных шашыстак, які закончыўся ў Таліне. Святлана Рачок выдатна правяла спаборніцтвы і з трынаццацю ачкамі завявала сярэбраную ўзнагароду, уступіўшы толькі адно ачко чэмпіёнцы свету Людміле Літвіненка з Украіны.

## ПЕРШЫ, ДРУГІ, ТРЭЦІ...

На дваццатым севастопальскім міжнародным турніры баксёраў добра выступілі юныя беларусы. У вагавой катэгорыі да 71 кілаграма мінчанін Андрэй Перапяліцын правёў тры пераможныя бai.

Бабруйчане Васіль Саргавіцкі (60 кілаграмаў) стаў сярэбраным прызёрам, а Сяргей Макарэвіч (54 кілаграмы) — бронзавым.

# БЕЛАРУСКАЯ КУХНЯ

### МОРКВА З МАЛАКОМ

Моркву пачысціць, нарэзаць невялікімі кубікамі, дабавіць масла, цукар, ваду або булён і прыпусціць да паўгатоўнасці, запраўіць злёгку падсмажанай пшанічнай мукой, пасаліць, перамяшаць і паставіць тушыць. За 5—8 хвілін да гатоўнасці ўліць гарачае малако.

5—6 шт. морквы, 2 сталовыя лыжкі мукі, 2 шклянкі малака, 1 сталовая лыжка цукру, 2 сталовыя лыжкі масла, соль.

### ПТУШКА ХАТНЯЯ ПЕЧАНАЯ

Тушку птушкі (гусь, качка, курыца) абсмаліць на агні, прамыць; шыю, ножкі і крылцы адрэзаць; нацерці соллю звонку і знутры. Зварыць панцак ці грэцкую рассыпчатую кашу, асобна падсмажыць злёгку рэпчатую цыбулю, абсмажыць нарэзанае кубікамі сала, усё перамяшаць і напоўніць тушку. Зашыць разрэз, пакласці на бляху спінкай уніз і паставіць у печ або духоўку. Тушку птушкі неабходна перыядычна паліваць тлушчам, што атрымаўся ў працэсе смажання. Птушку можна начыніць таксама свежымі яблыкамі без асяродка, ачышчанымі ад лупінак і разрэзанымі на 3—4 часткі. Гатовую страву разрэзаць на часткі, выцягнуць ніткі і падаць разам з фаршам.

1,5 кілаграма птушкі (тушка), 200 г сала, 1/2 шклянкі грэцкіх або ячных круп, 2—3 цыбуліны, соль.

### КАМЫ

Абабраную бульбу зварыць у падсоленай вадзе, прапусціць праз мясарубку. Дробна парэзаныя кавалачкі свінога сала з рэпчатай цыбуляй падсмажыць на патэльні да залацістага колеру і перамяшаць з бульбай. Бульбяную масу падзяліць на невялікія круглыя шарыкі (камы), абсмажыць на змазанай тлушчам патэльні і запячы ў духоўцы.

12 бульбін, 100 г. сала, 2 цыбуліны, соль.

### КАША ПА-ВІЦЕБСКУ

Абабраную бульбу зварыць у падсоленай вадзе, працерці праз сіта або старанна размяць, развесці гарачым малаком, дабавіць прамытую звараную ячную кашу ці панцак, перамяшаць і паставіць у духоўку на 30—40 хвілін.

Гатовую кашу падаць са сметанковым маслам.

1 шклянка панцаку або ячных круп, 6 бульбін, 1 шклянка малака, 4 сталовыя лыжкі масла, соль.


# КОНКУРС

УВАГА!!!

## ВЯЛІКІ КОНКУРС ПОЛЬСКАГА РАДЫЁ ДЛЯ ЗАМЯЖЫ

ПОЛЬСКАЕ РАДЫЁ ДЛЯ ЗАМЯЖЫ АБВЯШЧАЕ КОНКУРС З УЗНАГАРОДАМІ ДЛЯ СЛУХАЧОЎ ПЕРАДАЧ НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ.

КАБ ПРЫНЯЦЬ УДЗЕЛ У КОНКУРСЕ, ХОПІЦЬ ВЫСЛАЦЬ НА АДРАС ПОЛЬСКАГА РАДЫЁ СВАЕ ДУМКІ ПРА НАШЫ ПЕРАДАЧЫ АБО ПРА ЧУТНАСЦЬ НАШЫХ ПЕРАДАЧ У ЭФІРЫ.

НАВАТ КАЛІ ТЫ НЕ З'ЯЎЛЯЕШСЯ НАШЫМ СЛУХАЧАМ — МОЖАШ ІМ СТАЦЦА, НАПІШЫ ДА НАС — МЫ ПРЫШЛЕМ ТАБЕ ПРАГРАМУ І ТЭХНІЧНУЮ ІНФАРМАЦЫЮ ПРА ЎМОВЫ ПРЫЁМУ НАШЫХ ПЕРАДАЧ.

УСЕ ПІСЬМЫ ПРЫМУЦЬ УДЗЕЛ У ЛЕСАВАННІ!!!

ГАЛОЎНАЙ УЗНАГАРОДАЙ БУДЗЕ РАДЫЁМАГНІТАФОН З КАРОТКІМІ ХВАЛЯМІ.

АПРАЧА ГЭТАГА МНОГІЯ ДРУГІЯ ЎЗНАГАРОДЫ.

ТЭРМІН, КАБ ПРЫСЛАЦЬ АДКАЗ НА КОНКУРС — ДА ПЕРШАГА ВЕРАСНЯ. РАШАЦЬ БУДЗЕ ДАТА ПАШТОВАГА ШТЭМПЕЛЯ. ВЫНІКІ КОНКУРСУ АБВЯСЦІМ 30-ГА ВЕРАСНЯ.

НАШ АДРАС: БЕЛАРУСКАЯ РЭДАКЦЫЯ ПОЛЬСКАГА РАДЫЁ, 00—950 ВАРШАВА, P.O. БОХ 46, ПОЛЬШЧА.

УВАГА: У АДНЫМ КАНВЕРЦЕ, З НАДПІСАМ «КОНКУРС», МОЖНА ПРЫСЛАЦЬ ДАВОЛЬНУЮ КОЛЬКАСЦЬ АДКАЗАЎ — КОЖНЫ З ІХ ПРЫМЕ УДЗЕЛ У ЛЕСАВАННІ.

ПЕРАДАЧЫ ПОЛЬСКАГА РАДЫЁ НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ ГУЧАЦЬ ШТОДЗЁННА НА КАРОТКІХ ХВАЛЯХ 41.99, 49.22 ДЫ 200 МЕТРАЎ АД ГАДЗІНЫ 7.30 ДА 7.55 І НА КАРОТКІХ ХВАЛЯХ 41.18, 41.99, 49.22 АД ГАДЗІНЫ 21.00 ДА 21.25 МЕНСКАГА ЧАСУ.



Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).





НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку»
Тыраж 5 500 экз.
Індэкс 63854. Зак. 1253.
Падпісана да друку 09.07.1992.
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12